● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

3 кастрычніка 1996 г. чацвер, № 240 (23043)




# ЗВЯЗДА

### *Парламенцкаму сходу Супольніцтва Беларусі і Расіі*

Паважаныя ўдзельнікі Парламенцкага сходу!

Падпісанне Дагавора аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі з'явілася важным укладам у развіццё і ўмацаванне ўсебаковых сувязей паміж нашымі краінамі. Ужо зроблены першыя рэальныя крокі па аб'яднанню эканамічнага і культурнага патэнцыялаў, вырашэнню набалелых праблем сацыяльнай сферы. Прынята і пачынае рэалізоўвацца Праграма першачарговых мер-раў. Аднак мы не можам і не маем права спыняцца на дасягнутым. Трэба зрабіць яшчэ вельмі многае, каб запрацавала эканоміка, каб простыя людзі адчулі рэальныя пазітыўныя зрухі.

Я поўнасцю згодны з Прэзідэнтам Расіі Ельцыным Б. М., што вялікую ролю ў павышэнні дзейснасці беларуска-расійскага Супольніцтва можа і павінен адыграць Парламенцкі сход. Нашы народы чакаюць ад вас канкрэтных крокаў па уніфікацыі нацыянальных заканадаўстваў, стварэнню аднолькавых умоў для суб'ектаў гаспадарання дзвюх краін, выпрацоўцы адзінай нарматыўнай базы, якая забяспечвае сацыяльную абарону грамадзян.

Я жадаю Парламенцкаму сходу Супольніцтва Беларусі і Расіі плённай работы ў імя працвітання і дабрабыту нашых народаў.

*З павагай, Аляксандр ЛУКАШЭНКА.*

*РОЗГАЛАС*

## ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...
### ... ДАРАЖЭЕ БУЛЬБА СЁЛЕТНЯГА ЎРАДЖАЮ

**Падставай для такіх размоў (прынамсі, у Мінску), магчыма, сталі цэннікі ў некаторых магазінах дзяржгандлю на «другі хлеб». Нягледзячы на сёлетні добры ўраджай бульбы і настойлівыя рэкамендацыі Мінсельгасхарча гаспадаркам не завышаць штучна цану на яго, у асобных гандлёвых кропках можна было ўбачыць гэты прадукт харчавання па тры і нават пяць тысяч рублёў за кілаграм. Па тлумачэнні я звярнуўся да намесніка начальніка ўпраўлення па вытворчасці, перапрацоўцы і гандлю плодаагароднінай прадукцыяй, бульбай і льном Мінсельгасхарча Аляксандра Белавусава.**

— Мяркую, што такое становішча склалася ў сувязі з тым, што да 1 верасня вялася нарыхтоўка ранняй бульбы па 4-5 тысяч рублёў за кілаграм, — гаворыць Аляксандр Гаўрылавіч. — Магчыма, зараз гандаль дарэалізоўвае старыя запасы ранняй бульбы, на якія не можа знізіць цану. З пачаткам масавай уборкі бульбы ў гаспадарках плодаагароднінныя камбінаты сталіцы пачалі закупляць «другі хлеб» па 1700—1800 рублёў. Зараз нарыхтоўка вядзецца па цане 1600—1700 рублёў за кілаграм клубняў. (Дарэчы, мінскія плодаагародніннья камбінаты ўжо залажылі на захоўванне 2,5 тыс. тон бульбы). Закупачная цана плюс прыкладна 30 працэнтаў гандлёвай надбаўкі — атрымліваецца, што рэальны кошт бульбы на сучасны момант павінен складаць каля 2500 рублёў. Другой прычынай размоў аб падаражанні «другога хлеба», якое нібы адбылося, Аляксандр Белавусаў назваў кансігнацыйную аснову разлікаў паміж плодаагароднінными камбінатамі і гаспадаркамі. З-за адсутнасці сродкаў першыя бяруць бульбу на рэалізацыю, аддаючы грошы потым. Магчыма, гэта нейкім чынам і паўплывала на з'яўленне чутак, адзначыў адказны спецыяліст міністэрства.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## А. ЛУКАШЭНКА НАКІРАВАЎ ПАСЛАННЕ Б. ЕЛЬЦЫНУ

**2 кастрычніка 1996 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў пасланне ў адказ Прэзідэнту Расійскай Федэрацыі Барысу Ельцыну.**

У ім кіраўнік беларускай дзяржавы падтрымаў выказаную расійскім Прэзідэнтам ацэнку сучаснага стану і перспектыў развіцця Супольніцтва дзвюх брацкіх дзяржаў. Асаблівую ўвагу Аляксандр Лукашэнка звярнуў на тое, што мэта і сэнс развіцця Супольніцтва заключаецца ў паляпшэнні жыцця простых людзей — грамадзян Беларусі і Расіі.

Як кіраўнік Вышэйшага Савета Супольніцтва Беларусі і Расіі Аляксандр Лукашэнка прапанаваў прыняць канкрэтныя меры ў гэтым напрамку і істотна павысіць эфектыўнасць работы міждзяржаўных структур.

У пасланні выказваецца згода з думкай расійскага Прэзідэнта аб тым, што ў дзяржавах — членах Супольніцтва павінна падтрымлівацца сацыяльная і палітычная стабільнасць, а праблемы, якія ўзнікаюць, вырашацца цывілізаваным, дэмакратычным шляхам.

Аляксандр Лукашэнка прыняў прапанову расійскага Прэзідэнта аб асабістай сустрэчы ў бліжэйшы час.

**Прэс-служба Прэзідэнта — БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ ПАЖАДАЎ КІТАЙСКАМУ НАРОДУ МІРУ І ДАБРАБЫТУ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Старшыню КНР Цзян Цзэміня з нацыянальным святам — Днём абвяшчэння рэспублікі, які народ гэтай краіны адзначае 1 кастрычніка.**

У віншаванні, у прыватнасці, гаворыцца: «З нагоды 47-й гадавіны стварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі мне вельмі прыемна ад імя народа Рэспублікі Беларусь і ад сябе асабіста перадаць Вам самыя цёплыя віншаванні. У сувязі з гэтым хацелася б пажадаць Вам далейшых поспехаў у Вашай высакароднай дзейнасці, міру і дабрабыту кітайскаму народу».

Кіраўнік дзяржавы выказаў спадзяванне, што дружалюбныя адносіны, якія існуюць паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай, будуць і надалей паспяхова развівацца на карысць двух народаў, усеагульнага міру і стабільнасці.

**БЕЛТА.**

## УКАЗЫ АБ САЦЫЯЛЬНАЙ ПАДТРЫМЦЫ НАСЕЛЬНІЦТВА ПАВІННЫ ВЫКОНВАЦЦА

**Дэталёва вывучыць ход выканання ўказаў, звязаных са сферай сацыяльнай падтрымкі насельніцтва, мае намер Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на нарадзе з кіраўнікамі ўрада і іншых цэнтральных органаў кіравання краіны. Яна адбудзецца 4 кастрычніка.**

Як паведаміла Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі кіраўніка дзяржавы, такое рашэнне Прэзідэнта прадыктавана тым, што ў яго адрас паступіла вялікая колькасць скаргаў і заяў, перш за ўсё ад рэчоў і настаўнікаў, аб затрымцы выплаты аднаразовай дапамогі ў памеры 500 тысяч рублёў. Такая дапамога прадугледжана ўказам Аляксандра Лукашэнкі, і ён даў канкрэтнае ўказанне Мінфіну і Галоўнай падатковай інспекцыі выплаціць названую суму ў поўным аб'ёме ўсім без выключэння бюджэтным работнікам.

**БЕЛТА.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

Паводле даных аб узроўні жыцця ў Еўропе, якія апублікавала Еўрапейская камісія, **грамадзяне Расіі і Беларусі** ў чатыры разы **бяднейшыя** за грамадзян найбольш развітых краін Еўропы.

Велічыня **ўнутранага дзяржаўнага доўгу** складае сёння 2,5 трыльёна рублёў, з іх 2 трыльёны — доўг сельскай гаспадаркі.

Ад 10 да 30 працэнтаў працаздольнага насельніцтва Беларусі **мае жаданне** пашукаць працы за мяжой.

У мінулым годзе **расходы на ахову здароўя** склалі ў параўнанні з 1990 годам 53,3 працэнта.

Як мяркуюць эксперты, **запасы нафты**, якія вядомы на сённяшні дзень, дазволяць **задаволіць сусветныя патрэбы** ў гэтым відзе паліва яшчэ на працягу 43 гадоў.

**Колькасць разводаў** на Магілёўшчыне зараз дасягнула **87 працэнтаў** ад заключаных шлюбаў.

За студзень—жнівень **у бюджэт дзяржавы паступіла** 30,3 трыльёна рублёў даходаў, што на 41,1 працэнта больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года пры росце спажывецкіх цэн у 1,6 раза.

На 1 жніўня ўдзельная **вага крэдытаў у інвестыцыі** ў агульнай суме крэдытных укладанняў **склала 16,9 працэнта** супраць 10,9 працэнта на 1 жніўня 1995 года.




# УСЁ ПРА БЕЛАРУСЬ ВЯДОМА, КАЛІ «ЗВЯЗДА» Ў ВАШЫМ ДОМЕ!

### Адбыўся розыгрыш латарэі сярод падпісчыкаў «Звязды», якую праводзіла рэдакцыя газеты разам з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання і рэспубліканскім аб'яднаннем «Белпошта»

Шчыра скажу, для нас гэта было нечакана і ў той жа час прыемна, што 17.245 падпісчыкаў «Звязды» пажадалі прыняць удзел у розыгрышы латарэі. Мы яшчэ раз адчулі: у нас шмат сяброў-аднадумцаў, якім неабыякавы лёс газеты, якія рупліва працуюць на дастатак сваёй сям'і, свайго калгаса ці прадпрыемства, а значыць, мацуюць нашу Беларусь. Словы падзякі ў адрас газеты, якія выказваліся ў шматлікіх пісьмах, даюць нам падставы меркаваць, што чытач гатовы падтрымаць «Звязду», калі размова ідзе аб адстойванні прынцыповых і аб'ектыўных пазіцый. Гэта для нас, паверце, вельмі важна. Мы ж, журналісты, у першую чаргу ўсёй сваёй працай, усім сваім жыццём імкнёмся дапамагчы людзям, хоць у нейкай меры аблегчыць іх такое складанае і цяжкае сённяшняе жыццё. Свабода і справядлівасць — вось наш асноўны дэвіз. Яго, і ў гэтым мы пераканаліся, у поўнай меры падтрымліваюць і нашы чытачы. Спадзяёмся, што і надалей мы будзем разам — мацаваць нашу дзяржаву, рабіць жыццё заможным, дастойным працавітых, добрых людзей, якія жывуць на такой прыгожай беларускай зямлі.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

# УСЁ ПРА БЕЛАРУСЬ ВЯДОМА, КАЛІ «ЗВЯЗДА» Ў ВАШЫМ ДОМЕ!

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

...Як мы і абяцалі, у час розыгрышу латарэі прысутнічалі члены назіральнага савета, даўнія падпісчыкі «Звязды»: дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі Аляксандр Аляксандравіч Міклашэвіч, які 35 гадоў выпісвае нашу газету; яшчэ больш гадоў «верны» ёй Міхась Піліпавіч Паўлючэнка (пераехаў некалькі гадоў назад з Брагінскага раёна ў Мінск); а вось Міхась Мікалаевіч Шавыркін не толькі даўні чытач, але і пазаштатны вядучы пастаяннай рубрыкі «Звязды» «Анталогія беларускай песні». Удзел у розыгрышы прынялі таксама кіраўнік групы па інфармацыі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Дзмітрый Сяргеевіч Лопух, начальнік аддзела РА «Белпошта» Валянціна Мікалаеўна Сімакова, начальнік выдавецкага цэнтра «Марка» РА «Белпошта» Ірына Віктараўна Астроўская.

А вось галоўнай дзеючай асобай, лічу, была ўсё ж мінская школьніца Каця Тамковіч, якая, прызнаюся, вельмі сур'ёзна аднеслася да свайго абавязку: ад яе шчаслівай рукі залежала, хто стане ўладальнікам 30 прызоў «Звязды».

Першы і найгалоўнейшы прыз газеты — **высокаўдойная карова** — дасталася **вадзіцелю Віктару Андрэевічу Міронччыку** з Капыля.

Калі мы потым сазваніліся, гаспадыня, Галіна Віктараўна (дарэчы, настаўніца пачатковых класаў), не магла адразу паверыць, што ім так пашчасціла. Зніклі і нашы трывогі: мы баяліся, што Мірончыкі жывуць у шматпавярхоўцы. Аказалася, што ў іх свая гаспадарка, ужо ёсць адна карова. На маё пытанне: «Ці змогуць яны трымаць яшчэ адну?» Галіна Віктараўна адказала: «Кармоў, можа, і не хопіць, але гэта не бяда, выкруцімся». Яна прызналася, што раней выпісвалі некалькі газет. Цяпер грошай хапае толькі на «Звязду». «Ведаеце, яна стала для нас амаль што сапраўдным членам сям'і. Мы адчуваем ад яе дабрыню. З ёю лягчэй жывецца».

Калі я расказаў калегам, каму дастаўся галоўны прыз, хтосьці выказаўся так: «Бог ёсць, і ён літасцівы і справядлівы да «Звязды». Справа ў тым, што Капыльскі раён — адзін з лідэраў па падпісцы на нашу газету. І тое, што карова трапіць, спадзяёмся, у добрыя гаспадарскія рукі — таксама прыемна.

**Тэлевізар карэйскай вытворчасці DAEWOO (спонсар — фірма «Бі-праект») выйграў Валерый Уладзіміравіч Кароза** з вёскі Манцякі Зэльвенскага раёна, які працуе вадзіцелем у калгасе.

## ПРЫЗЫ ВЫЙГРАЛІ:

**ВЕЛАСІПЕДЫ ВЫТВОРЧАСЦІ МІНСКАГА МОТАВЕЛАЗАВОДА:**

**Ерамановіч** Марыя Мар'янаўна (г. п. Астравец Гродзенскай вобласці);
**Цырлін** Яўген Якаўлевіч (г. Горкі Магілёўскай вобласці);
**Коваль** Кацярына Іванаўна (в. Акцябр Лагойскага раёна);
**Зінкевіч** Канстанцін Мікітавіч (в. Яскіня Рагачоўскага раёна).

**ФОТААПАРАТЫ «ЗЕНІТ»:**

**Кротава** Ірына Іванаўна (г. п. Карэлічы Гродзенскай вобласці);
**Маслюкова** Лілія Апанасаўна (г. Гомель);
**Цілонава** Кацярына Цімафееўна (г. п. Заслаўль);
**Навіцкая** Зоя Уладзіміраўна, **Тондзаль** Міхаіл Лук'янавіч (г. Мінск).

**ПРАЛЬНАЯ МАШЫНА «МАРА»:**

**Фралова** Надзея Пятроўна (в. Скепня Жлобінскага раёна).

**МІКСЕРЫ**:

**Навышная** Марыя Міхайлаўна (г. п. Плешчаніцы Мінскай вобласці);
**Жураўскі** Валерый Іванавіч (г. Барысаў).

**ЛЮСТРЫ**:

**Ганчарова** Зінаіда Рыгораўна (г. Рагачоў);
**Міхалевіч** Канстанцін Яфімавіч (г. Мінск);
**Буйко** Данута Станіславаўна (в. Тарнова Лідскага раёна).

**ФЕНЫ**:

**Вабішчэвіч** Валянціна Мікалаеўна (в. Пацейкі Капыльскага раёна);
**Заяц** Фёдар Аляксеевіч (в. Навінкі Слуцкага раёна);
**Трацінка** Алег Валянцінавіч (г. Маладзечна).

**ТЭЛЕФОНЫ**:

**Кіслы** Алег Юр'евіч (г. п. Рось Ваўкавыскага раёна);
**Пакатава** Ніна Міхайлаўна (г. Наваполацк);
**Моўчан** Тамара Антонаўна (в. Путчына Дзяржынскага раёна);
**Давыдоўская** Вольга Анатольеўна (г. п. Рудзенск Пухавіцкага раёна);
**Скоўбель** Марыя Іванаўна (в. Рылавічы Іванаўскага раёна);
**Собаль** Сяргей Міхайлавіч (в. Квасевічы Івацэвіцкага раёна);
**Бандарэнка** Ядвіга Міхайлаўна (в. Сокалы Лагойскага раёна);
**Жук** Ліна Абрамаўна (г. Мінск);
**Сергуценка** Ніна Аляксееўна (г. Магілёў);
**Кукса** Марыя Дзмітрыеўна (в. Крывічы Салігорскага раёна).

Віншуем усіх пераможцаў. Мяркуецца, што прызы «Звязды» будуць уручаны кожнаму іх уладальніку супрацоўнікамі газеты.

**Пачалася падпіска на першае паўгоддзе наступнага года. «Звязда» і надалей працягне розыгрыш латарэі сярод сваіх падпісчыкаў, але будзе некалькі адметнасцей. Па-першае, прызоў будзе больш, а па-другое (і самае галоўнае) — сярод чытачоў «Звязды», якія аформілі падпіску на паўгода, будзе разыграны — *КОНЬ*.**

**Таму**

**Выпісвайце! Чытайце! Удзельнічайце! Выйгравайце! Заставайцеся з намі!**

Падпісная цана на 6 месяцаў — **83.400** рублёў, на месяц — **13.900**.

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**



# У РУСКІМ ТЭАТРЫ ЎШАНОЎВАЛІ КАРАЛЕВУ СЦЭНЫ

За пяцьдзесят чатыры гады сцэнічнай дзейнасці Аляксандра Клімава сыграла пяцьдзесят цэнтральных роляў. І ў свой юбілейны вечар яна зачаравала залу сваім запаветным маналогам. І зноў жа аб лёсе — аб лёсе актрысы.

І нядзіўна, што калі пачаўся віншавальны нон-стоп, Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка не стаў зачытваць Аляксандры Клімавай прывітальны адрас, а проста абняў яе і ад усёй душы падзякаваў за тыя высокія пачуцці, якія выклікала актрыса ў яго.



*Фота БЕЛТА.*

«Седзячы ў гэтай зале, я глядзеў на Вас і зайздросціў Вам, — сказаў Прэзідэнт. — Вы вялікі чалавек, які ўзышоў, вобразна кажучы, на найвышэйшую гару, якая толькі можа быць у жыцці людзей. Мне яшчэ трэба будзе пакарыць сваю гару, я толькі ў пачатку цяжкай дарогі. Але як бы ні было цяжка, вяршыні дасягнуць трэба... Таму я шчыра віншую Вас з той веліччу, што Вы дасягнулі сваёй працай і талентам. Жадаю Вам і Вашым родным шчасця і дабра. Жывіце доўга і радуйце людзей сваім мастацтвам».

Аляксандр Лукашэнка ўручыў Аляксандры Клімавай медаль Францыска Скарыны, які папоўніў яе шматлікія ўзнагароды, а сярод іх ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга, Леніна, Дружбы народаў, медалі «За працоўную адзнаку», «За доблесную працу», «Ветэран працы».

Нямала цёплых слоў сказаў, віншуючы актрысу, і намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка. Было шмат кветак, падарункаў, творчых прывітанняў... І ў гэтай усеагульнай атмасферы любві і шчырых добрых пачуццяў сапраўды панавалі адзінства і гармонія. «Я вас усіх люблю», — сказала, завяршаючы свой бенефіс, Аляксандра Клімава. На такой высокай ноце яна пачала свой 41-ы сезон у Дзяржаўным акадэмічным рускім драматычным тэатры.

**Віктар КУКЛОЎ, БЕЛТА.**

## *УДЗЕЛЬНІКАМ І ГАСЦЯМ МІЖНАРОДНАГА ТЭАТРАЛЬНАГА ФЕСТЫВАЛЮ «БЕЛАЯ ВЕЖА-96»*

ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!

Сардэчна вітаю дзеячаў тэатральнага мастацтва Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі і Францыі, якія сабраліся на славутай і гераічнай брэсцкай зямлі для ўдзелу ў Міжнародным тэатральным фестывалі «Белая вежа-96».

Прыемна ўсведамляць, што для майстроў сцэны не існуе межаў у творчым супрацоўніцтве, спасціжэнні таямніц чалавечай душы і сакрэтаў мастацтва.

Спадзяюся, што фестываль стане духоўным здабыткам гледачоў і ўдзельнікаў святочных мерапрыемстваў, паслужыць умацаванню творчых сувязей, дружбы паміж дзеячамі мастацтва краін-удзельніц, узбагаціць агульначалавечую культуру.

Жадаю вам, дарагія сябры, плённай творчай працы, цікавых тэатральных падзей, запамінальных сустрэч на гасціннай беларускай зямлі.

***Аляксандр ЛУКАШЭНКА.***

3 кастрычніка 1996 года.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 387

**Аб падпісанні Канвенцыі ААН аб незалежных гарантыях і рэзервовых акрэдытывах**

Прыняць прапанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб падпісанні Канвенцыі ААН аб незалежных гарантыях і рэзервовых акрэдытывах ад 11 снежня 1995 г.

Упаўнаважыць Пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Сычова Аляксандра Мікалаевіча падпісаць названую Канвенцыю.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
27 верасня 1996 г. г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ

**Аб узнагароджанні ордэнам Дружбы Даніленкі В. Д.**

За вялікі асабісты ўклад у развіццё расійска-беларускага супрацоўніцтва, умацаванне дружбы і добрасуседства паміж брацкімі народамі Расіі і Беларусі ўзнагародзіць ордэнам Дружбы **Даніленку** Віктара Дзмітрыевіча — Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі.

**Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Б. ЕЛЬЦЫН**
*Масква, Крэмль*
*1 кастрычніка 1996 года*
*№ 1411.*

## *УВАГА! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»*

**Паважаныя чытачы! На ўсе вашы пытанні, якія датычацца сельскай гаспадаркі, адкажа міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь Васіль ЛЯВОНАЎ**

Завяршаецца збор ураджаю сёлетняга года. Можна заўважыць, што гэтым летам, гэтай восенню працаўнікам аграпрамысловага комплексу пашчасціла: неблагі ўраджай збожжавых, неблагі ўраджай бульбы. Але ж, безумоўна, усё гэта дасталося дзякуючы самаахвярнай працы вяскоўцаў. Сёння ў працаўнікоў сельскай гаспадаркі процьма праблем, клопатаў. Не кожнаму, безумоўна, удаецца дзеля вырашэння іх выйсці на самыя высокія інстанцыі. «Звязда» аказвае вам у гэтым дапамогу. 7 ліпеня на вашы пытанні, паважаныя чытачы, адкажа міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь Васіль Севасцьянавіч Лявонаў, адбудзецца гэта ў час «Прамой лініі».

**Званіце па тэлефонах: 232—38-21 і 232-38-92 з 11 да 12 гадзін. Папярэдне задавайце пытанні па тэлефонах: 268-28-72; 268-27-51.**

## СТВОРАНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ТУРЫСТЫЧНЫ КАНЦЭРН «БЕЛІНТУРЫСТ»

У мэтах забеспячэння ўмоў для развіцця турыстычнай дзейнасці і рынку турысцкіх паслуг у нашай краіне створаны Нацыянальны турыстычны канцэрн «Белінтурыст». Указ аб гэтым падпісаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

У састаў канцэрна ўключаны сталічны гасцінічны комплекс «Юбілейны», матэль-кемпінг «Мінскі», дзяржаўная турыстычная камерцыйная фірма «Вест-Інтур» у Брэсце, вытворчы камбінат «Інтурыст», а таксама дзяржаўнае прадпрыемства «Беларускі комплекс «Юнацтва».

Кіраўнік дзяржавы даручыў Кабінету Міністраў у трохмесячны тэрмін вырашыць пытанні ліквідацыі закрытага акцыянернага таварыства «Белінтурыст» і перадачы яго маёмасці канцэрну «Белінтурыст». Згодна з указам, Нацыянальны банк павінен даць канцэрну і прадпрыемствам і арганізацыям, якія ўваходзяць у яго састаў, права на аказанне паслуг у галіне турызму за замежную валюту, уключаючы продаж турыстычных пуцёвак.

**БЕЛТА.**

## *ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

# ...У МАГАЗІНАХ НЕ ХАПАЕ ХЛЕБА

Згодна з данымі Міністэрства хлебапрадуктаў, вытворчасць (і, адпаведна, спажыванне) хлеба і хлебабулачных вырабаў за мінулы месяц склала ў цэлым па краіне ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года 97,2 працэнта, у тым ліку хлеба — 94,9 працэнта.

Вытворчасць булачных вырабаў у тым жа параўнанні склала 105 працэнтаў, сухароў здобных — 79 працэнтаў, бараначных вырабаў — 95,2 працэнта, кандытарскіх — 92,4 працэнта. Калі параўноўваць гэтыя лічбы з паказчыкамі за апошнія некалькі месяцаў, можна заўважыць, што, нягледзячы на адставанне ад колішніх аб'ёмаў вытворчасці, у Беларусі пакрысе пачынае ўзрастаць спажыванне хлеба і хлебабулачных вырабаў. Мабыць па прычыне дарагоўлі жыцця, кошт якога павялічваецца, хлеб становіцца самым танным і дасягальным прадуктам харчавання?..

Як бы там ні было, у сувязі з павелічэннем рэалізацыі хлебабулачных вырабаў Міністэрства гандлю звярнулася ў Камітэт хлебапрадуктаў з просьбай аб неабходнасці выдзялення дадатковых рэсурсаў мукі для вытворчасці хлеба ў асартыменце. Па гэтай заяўцы гандлёвым прадпрыемствам дадаткова ў IV квартале бягучага года было выдзелена 3000 тон мукі вышэйшага гатунку, 300 тон круп грэцкіх, 100 тон круп аўсяных.

Як растлумачылі ў Камітэце хлебапрадуктаў, зараз вядзецца дадатковая закупка збожжа ў тых гаспадарках, якія ўжо выканалі план здачы збожжа дзяржаве. Прычым, каб грошы не пакідалі межаў краіны, было вырашана ўстанавіць кошт дадаткова набываемага збожжа для айчынных вытворцаў на ўзроўні цаны, якую плацяць замежным пастаўшчыкам. Так, адна тона пшаніцы прыносіць сёння беларускім гаспадаркам 191 долар ЗША, у той час як гэтая ж колькасць пшаніцы за мяжу ідзе ўжо па 200 долараў (не лічачы выдаткаў на транспарціроўку). Зараз тыя рэгіёны, якія выканалі план здачы збожжа дзяржаве, могуць аддаваць «лішкі» па такой жа цане.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# СУР'ЁЗНАЯ РАЗМОВА НАПЯРЭДАДНІ ВЫБАРАЎ І РЭФЕРЭНДУМУ

**«Страсці» па рэферэндуму літаральна запаланілі беларускія сродкі масавай інфармацыі. Але адначасова забываецца, што разам з рэферэндумам на 24 лістапада запланаваны і дадатковыя паўторныя выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у тых акругах, дзе яны не адбыліся ў мінулым годзе. Нагадаю, што такіх акруг налічваецца 61. Прычым амаль усе яны сканцэнтраваны ў буйных гарадах. Нягледзячы на тое, што СМІ паставіліся да давыбараў больш чым пятай часткі парламента абыякава, Цэнтрвыбаркам у межах сваёй кампетэнцыі імкнецца забяспечыць правядзенне ўсіх неабходных мерапрыемстваў, звязаных з канчатковым фарміраваннем заканадаўчай улады і органаў савецкай улады на месцах, паколькі, як вядома, мінулагоднія выбары ў мясцовыя Саветы былі таксама не ўсюды плённымі. Меркавалася, што яны павінны будуць адбыцца паралельна з выбарамі ў парламент 24 лістапада і рэферэндумам: сродкі былі б зэканомлены, і яўка выбаршчыкаў забяспечана. Але, мабыць, гэтым спадзяванням не наканавана збыцца.**

Ва ўсякім разе, пра гэта сведчаць вынікі пасяджэння рабочай групы пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета, якая створана для аператыўнага вырашэння арганізацыйна-тэхнічных пытанняў, звязаных з падрыхтоўкай і правядзеннем дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета і дэпутатаў мясцовых Саветаў. Яно адбылося 1 кастрычніка пад кіраўніцтвам Васіля Новікава. Акрамя членаў рабочай групы, дэпутатаў Вярхоўнага Савета, прадстаўнікоў Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў на пасяджэнні прысутнічалі намеснік міністра фінансаў сп. Заяш, Генеральны пракурор Васіль Капітан і старшыні абласных Саветаў дэпутатаў і Мінгарсавета. Апошнія, у прыватнасці, мелі справаздачы аб стане спраў у абласцях па забеспячэнню падрыхтоўкі да выбараў. Адначасова аб сваіх назіраннях рабочую групу праінфармавалі спецыялісты ўпраўлення па пытаннях мясцовага самакіравання і сувязях з органамі выканаўчай улады, якія па даручэнню Цэнтрвыбаркома кантралююць ход падзей у абласцях. У выніку высветлілася, што ніводзін абласны Савет не прызначыў даты давыбараў у мясцовыя Саветы. Так, старшыня Брэсцкага аблсавета Леанід Лемяшэўскі сказаў, што калі на рэферэндуме будзе прынята Канстытуцыя, прапанаваная Прэзідэнтам, то няма ніякай патрэбы выбіраць мясцовыя Саветы, паколькі яны будуць згодна з ёй скасаваны. Старшыні астатніх аблсаветаў былі менш катэгарычнымі (дарэчы, кіраўнік Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў Леанід Улашчык наогул праігнараваў пасяджэнне рабочай групы і не з'явіўся ў Мінск) і паведамілі, што выбары ў мясцовыя Саветы мяркуецца прызначыць на першы квартал будучага года.

Адным словам, кіраўніцтва абласцей і раёнаў, яшчэ не ведаючы, чым закончыцца гісторыя з ініцыятывай рэферэндуму, ужо пераканана, што прэзідэнцкі праект Канстытуцыі будзе падтрыманы народам, пасля чаго палітычнае ўладкаванне краіны будзе карэнным чынам зменена. Таму ў сваіх дзеяннях яны, падобна, і кіруюцца гэтым. Што ж датычыцца слабай падрыхтоўкі да рэферэндуму і давыбараў у Вярхоўны Савет, то кіраўнікі аблсаветаў скардзіліся на адсутнасць сродкаў, процідзеянне з боку выканаўчай улады і... адсутнасць каманды зверху. Маўляў, няхай спачатку Прэзідэнт і Вярхоўны Савет разбяруцца ў Мінску што да чаго, а потым скамандуюць нам, што рабіць. Такая заява, якая прагучала з вуснаў таго ж Л. Лемяшэўскага, проста абурыла членаў рабочай групы і прадстаўнікоў Цэнтрвыбаркома. «Існуе закон, існуе графік мерапрыемстваў, якой каманды зверху вы яшчэ чакаеце?!» — адрэагаваў Віктар Ганчар.

Але аказалася, што ёсць выпадкі, калі пэўныя крокі на месцах былі зроблены на дзіва аператыўна і без «каманды». Так, невядома па чыёй ініцыятыве ў акругах, дзе павінны адбыцца выбары дэпутатаў у парламент краіны, яшчэ да з'яўлення адпаведнай інструкцыі Цэнтрвыбаркома былі створаны новыя ўчастковыя камісіі для правядзення рэферэндуму, якія фактычна сталі дзейнічаць паралельна са старымі. Сутнасць і мэту такіх змен, мусіць, не трэба тлумачыць. А вось дабіцца тлумачэнняў ад кіраўнікоў абласных Саветаў наконт таго, як гэта здарылася, так і не ўдалося.

Асаблівую цікавасць выклікае інфармацыя Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, якая прагучала на пасяджэнні рабочай групы. У прыватнасці, Віктар Ганчар паведаміў, што да адміністрацыйнай адказнасці па арт. 163 п.3 КАП прыцягнуты мэр Мінска Уладзімір Ярмошын. Зараз разглядаецца магчымасць прыняцця адпаведных мераў і ў дачыненні да старшыні Брэсцкага аблвыканкома сп. Заламая. Гэта сведчыць аб тым, што адміністрацыйная адказнасць будзе прымяняцца ў адносінах да адказных асоб за парушэнне заканадаўства пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў і рэферэндуму. Асаблівую занепакоенасць у Цэнтрвыбаркоме выклікае зрыў міністэрствам графіка фінансавання мерапрыемстваў, звязаных з падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў і рэферэндуму 24 лістапада. Дарэчы, намеснік міністра фінінсаў сп. Заяш не змог растлумачыць сітуацыю і зрабіў выгляд, што нічога не ведае пра патрабаванні ЦВК. Па-ранейшаму выклікае абурэнне існаванне нібыта спецыяльнага рахунку «Рэферэндум-96», які на самай справе з'яўляецца рахункам «Даходы бюджэту» і адкрыты Міністэрствам фінансаў яшчэ 1 студзеня бягучага года. Дарэчы, як паведаміў Генеральны пракурор Васіль Капітан, акалічнасці гэтай скандальнай гісторыі высвятляюцца пракуратурай і Кантрольнай палатай і будуць абнародаваны літаральна днямі. Акрамя таго сп. Капітан пацвердзіў, што Генеральная пракуратура будзе стаяць на варце закона і будзе разглядаць усе прадстаўленні ад Цэнтрвыбаркома адносна парушэння заканадаўства тымі ці іншымі адказнымі асобамі, прымаць адпаведныя меры.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ЛЁС РЭДАКТАРА «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ» ВЫРАШЫЦЦА ПАСЛЯ 15 КАСТРЫЧНІКА

**Як вядома, на мінулым тыдні Вярхоўны Савет Беларусі прыняў рашэнне, згодна з якім прызначаны на пасаду галоўнага рэдактара «Народнай газеты» дэпутат парламента Леанід Юнчык з 1 кастрычніка павінен быў прыступіць да выканання сваіх новых абавязкаў. Але гэтага не адбылося.**

Акалічнасці гэтай гісторыі сталі вядомы ў той жа дзень. 30 верасня старшыня падкамісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сродках масавай інфармацыі Аляксандр Дабравольскі патэлефанаваў цяперашняму галоўнаму рэдактару «НГ» і папрасіў таго сабраць 1 кастрычніка працоўны калектыў для таго, каб прадставіць супрацоўнікам рэдакцыі новага шэфа. Аднак сп. Шыманскі адмовіўся гэта рабіць і паведаміў парламентарыю, што ў сваіх дзеяннях будзе кіравацца ўказам Прэзідэнта, паводле якога ён прызначаны на пасаду галоўнага рэдактара газеты. Абвастраць канфлікт бакі не сталі і на гэтым разышліся. Але толькі часова. Як аказалася, пытанне адносна лёсу шэфа «Народнай газеты» канчаткова вырашыцца пасля 15 кастрычніка. Мяркуецца, што на гэты час ужо з'явіцца заключэнне Канстытуцыйнага суда, які зараз высвятляе законнасць акцыяніравання газеты паводле прэзідэнцкіх указаў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***ТРАГЕДЫЯ***

# АТРУЧЭННЕ СЯМ'І З МАЧУЛІНА ПАЦВЯРДЖАЕЦЦА. ЁСЦЬ НОВАЯ АХВЯРА

Наша газета ўжо паведамляла аб трагедыі, якая здарылася ў вёсцы Мачуліна Ваўкавыскага раёна. Напомнім толькі чытачам, што цэлая сям'я (чатыры чалавекі) ў мінулую суботу была знойдзена ў сваім доме: людзі нерухома ляжалі на падлозе, прызнакаў насілля выяўлена не было. Бацька і старэйшы сын аказаліся мёртвымі, а жонка і дачка былі дастаўлены ў гродзенскую абласную бальніцу.

Нам сталі вядомы некаторыя далейшыя падрабязнасці гэтай справы. На жаль, васьмігадовую дзяўчынку, вучаніцу 2 класа, урачам выратаваць не ўдалося: ужо ў бальніцы яна памерла. Не лепшым чынам складваюцца справы і ў апошняга члена сям'і, трыццаціпяцігадовай жанчыны: па інфармацыі, якую ўдалося атрымаць, у яе працягваецца таксікацыя арганізма. Пацвярджаецца і першае меркаванне наконт таго, што сям'я атруцілася кансерваванымі мяснымі прадуктамі — да злашчаснай суботы на працягу некалькіх дзён усе яны пакутавалі ад боляў у страўніку, аднак своечасова не звярнуліся па медыцынскую дапамогу.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## БЕЗ РАБОТЫ НЕ ЗАСТАНУЦЦА

Указам Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі выпускнікам вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў, а таксама ваеннаслужачым тэрміновай службы, звольненым з Узброеных Сіл рэспублікі, гарантуецца прадастаўленне першага рабочага месца. Парадак і ўмовы прадастаўлення для іх работы павінны быць распрацаваны і зацверджаны Кабінетам Міністраў у трохмесячны тэрмін.

Гэты ўказ прыняты ў мэтах актывізацыі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, зніжэння ўзроўню беспрацоўя сярод моладзі і ўмацнення неабходных для гэтага гарантый.

**БЕЛТА.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Мэндзі Олвуд, 32-гадовая англічанка, якая выношвала васьмізародкавы плод, вымушана была развітацца са сваімі планамі. На дваццатым тыдні цяжарнасці яна страціла траіх у выніку выкідышу. Зараз Мэндзі Олвуд знаходзіцца ў бальніцы, дзе ўрачы спрабуюць стабілізаваць яе здароўе. Аднак, па меркаванню спецыялістаў, існуе па-ранейшаму магчымасць таго, што яна застанецца зусім без дзяцей. Незвычайнае развіццё плода медыкі тлумачаць тым, што жанчына прымала процізачаткавыя сродкі.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Паспрачаліся на ноч гледзячы муж і жонка з амерыканскага гарадка Чарлерай Пол і Ані Кестэліны.

Муж утаймаваўся першым: «Ты як хочаш, а я кладуся спаць». І імгненна захроп. Гэта так раз'юшыла жонку, што яна схапіла пісталет і са словамі: «Прыемнага сну, Пол!» выстраліла ў яго. Бачачы, што той не варушыцца, яна вырашыла, што ён мёртвы. Яна збегла з дому, таму не бачыла, што «нябожчык» прачнуўся і, адчуўшы моцную рэзь у страўніку, прыняў дзве таблеткі болесуцішальнага. Калі ж лекі не дапамаглі, выклікаў урача, ад якога пачуў са здзіўленнем дыягназ: куля ў жываце.

**ЭКСТРА-ПРЭС.**

Інданезійскаму дзялку, які адбываў тэрмін у сталічнай турме, удалося арганізаваць уцёкі. Ён угаварыў вартаўніка адвесці яго ў гарадскую бальніцу, падмацаваўшы сваю просьбу салідная сумай. Натуральна, з бальніцы ён не вярнуўся. Вартаўнік паўстаў перад судом з абвінавачаннем у злосным парушэнні службовых абавязкаў і атрыманні хабару.

**Рэйтар.**

***СКАНДАЛ***

# У Мазыры рассакрэчана падпольная вытворчасць. «Два буслы», «Сталічная», «Пшанічная» — вось няпоўны пералік ліпавай прадукцыі завода

Якімі толькі чалавечымі слабасцямі не карыстаюцца ў сваіх мэтах living рознага роду махляры. Спрабуюць падзарабіць на ўсім — цязе да грошай, алкагольных напояў, залежнасці ад тытуню. Адна з апошніх так званых гучных спраў, аб якой «Звязда» пісала, — верасвеўская аперацыя міліцыі, калі была «накрыта» група буйных бізнесменаў, якія «працавалі» ў гандлі безакцызнымі цыгарэтамі. Калі ж задацца пытаннем: «Які від бізнесу ў нас адзін з самых прыбытковых», то наўрад ці памылішся, калі паставіш у шэраг лідэраў па «навару» вытворцаў падпольнай гарэлкі. Не без падстаў сцвярджаецца, што бюджэт рэспублікі недаатрымлівае па прычыне грандыёзнага падпольнага самагонаварэння не адзін мільярд рублёў. Між тым, пасля ўжывання няякаснага напою пакутуе не адзін беларус. Тайныя ж заводзікі працуюць літаральна на знос: гоняць моцнае зелле і разам з афіцыйнымі вытворцамі задавальняюць попыт на прадукцыю з градусамі. Зразумела, рэалізуецца «самагон» пад маркай вядомых як айчынных, так і замежных заводаў.

Пракантраляваць і злавіць за руку ўсіх махляроў, якія ўпэўнена ўліліся ў працэс самагонаварэння, праваахоўныя органы не ў стане: не абдымеш неабдымнае. Атрымліваецца часам так, што сапраўдная гарэлка губляецца ў моры падробак. Не выключэнне тут і гарэлка, якая ідзе з канвеера «Крышталя». Пры папулярнасці прадукцыі гэтага завода ў народа зусім не дзіўна, што падпольныя майстры выкарыстоўваюць гандлёвую марку апошняга. Па звестках карэспандэнта «Звязды», нярэдкія выпадкі, калі прэстыжныя «Два буслы» і іншыя заводскія маркі гарэлкі (толькі «самапальнай») прадаюцца з паліц магазінаў. Навошта сёння дамарослым бізнесменам гнаць, напрыклад, смілавіцкі «Смірноў», улічваючы праблемы з тым жа посудам, калі градусны дурман айчыннай гарэлкі нічым не горшы. А што гэта так, можна меркаваць хаця б па апошняй справе, якой зараз займаюцца праваахоўныя органы.

Як стала вядома, аператыўнікі ў аўторак рассакрэцілі ў Мазыры завод, які займаўся «вытворчасцю» «Пшанічнай», «Сталічнай» гарэлкі, гнаў «Два буслы» і шэраг іншай мясцовай высакаградуснай прадукцыі. Згодна з інфармацыяй, што ў нас ёсць, уражвае не толькі шматмарачны асартымент завода, але і абсталяванне, якім ён быў аснашчаны. Па запэўніваннях спецыялістаў, абсталяванне там — высакаякаснае. Ужо адзін той факт, што «самапальную» прадукцыю знешне нельга было адрозніць ад сапраўднай, гаворыць шмат аб чым. Шэраг рэчаў, якія да гэтага «падпольшчыкам» не ўдавалася падрабіць, на мазырскай «фабрыцы» ўдалося ўкараніць у жыццё. Саматужнікі асвоілі этыкетку на бутэльцы гарэлкі — штампы на ёй стаяць з абодвух бакоў, а што датычыцца коркаў, яны пастаўляліся на падпольны завод з Гомеля. Этыкеткі ж ішлі, хутчэй за ўсё, з іншага падпольнага канвеера з высакаякасным абсталяваннем.

Тэхналогія вырабу гарэлкі, якой тут займаліся паўгода, — найпрасцейшая. У бутэлькі разліваўся разбаўлены спірт, яны закаркоўваліся і прыклейваліся этыкеткі. Спірт на дом (менавіта ў адным з прыватных дамоў, які за 40 долараў у месяц здымалі «бізнесмены», усё і рабілася) пастаўляўся з Мазырскага завода кармавых дражджэй. Па словах арыштаваных двух махляроў (22-гадовага шэфа і яго 30-гадовага падручнага), этыкеткі і коркі для бутэлек яны набывалі ў Гомелі 1 тысяча штук па цане — 40 долараў).

У момант арышту на заводзе канфіскавана 4 тысячы гатовых да адпраўкі бутэлек.

І яшчэ адзін, як нам падаецца, немалаважны факт: спірт заліваўся ў непрадэзінфіцыраваныя бутэлькі, напрыклад, з-пад масла, кіслаты. Гэта, аднак, ніякім чынам не засмучала саматужнікаў. Відаць, па вялікіх святах яны, клапоцячыся аб сваім здароўі, пілі сапраўдную гарэлку. Астатнім жа, між іншым, давалі магчымасць атручваць арганізм сваім напоем. Ва ўсіх акалічнасцях гэтай справы зараз разбіраецца следства.

**Ігар ШЧУЧЭНКА, Пётр РАБКАВЕЦ.**

# ПРАЦА ПЕДАГОГА АЦЭНЕНА ПА ЗАСЛУГАХ

Указам Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі выкладчыку Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча Аляксандру Калядэнку прысвоена ганаровае званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь». Гэтага звання ён удастоены за вялікі ўклад у развіццё харэаграфічнага мастацтва і падрыхтоўку творчых кадраў.

**БЕЛТА.**

***ПАДРАБЯЗНАСЦІ***

# ДЭПУТАТЫ ВЫЗВАЛІЛІ АД ПАСАДЫ ГРОДЗЕНСКАГА МЭРА

**Аднак не за грубае парушэнне службовых абавязкаў, як гаворыцца ў прэзідэнцкім указе, а па ўласнаму жаданню.**

1 кастрычніка ў Гродне не было дажджу, выглянула сонейка. Аднак перамена надвор'я наўрад ці палепшыла настрой дэпутатаў гарсавета, якія сабраліся на пазачарговую сесію, каб разгледзець арганізацыйнае пытанне. На трыбуну падняўся старшыня аблвыканкома Аляксандр Дубко. Ён прапанаваў вызваліць ад пасады мэра горада Генрыха Крупенку на падставе ўказа Прэзідэнта, падпісанага 3 верасня. Аднак, нягледзячы на тое, што Генрых Аляксандравіч адразу пасля ўказа пакінуў свой службовы кабінет, сесія не абмяжавалася канстатацыяй гэтага факта. Разгарэліся даволі бурныя дэбаты наконт прычыны такога суровага пакарання Г. Крупенкі і законнасці працэдуры, у адпаведнасці з якой адбывалася яго звальненне.

Нагадаем, што папярэднічала ўказу Аляксандра Лукашэнкі. У абласным цэнтры на базе сярэдняй школы № 27 вырашылі стварыць ліцэй. Большасць вучняў малодшых класаў у сувязі з гэтым была пераведзена ў іншыя школы. Аднак частка бацькоў запратэставала, патрабуючы, каб іх дзеці працягвалі вучобу ў тых жа сценах па праграме агульнаадукацыйнай школы. Гэтых бацькоў пачулі ў сталіцы. У Гродна прыехала камісія, у якую ўваходзілі супрацоўнікі апарату Савета бяспекі, пасля чаго з'явіўся прэзідэнцкі ўказ. Вынік: сёння, як паведаміў дэпутатам А. Дубко, па праграме агульнаадукацыйнай школы ў ліцэі вучацца 15 хлопчыкаў і дзяўчынак з другога класа, 49 — з трэцяга і 7 — з чацвёртага. Акрамя таго, прэзідэнцкім указам намечана праверка захавання ўмоў конкурсу пры падборы настаўнікаў і выхавальнікаў у ліцэй.

Але найбольшы рэзананс выклікалі ў Гродне кадравыя аргвывады, зробленыя Прэзідэнтам пасля праверкі ліцэя. «За грубае парушэнне службовых абавязкаў, якое выявілася ў ігнараванні думкі грамадзян Рэспублікі Беларусь пры прыняцці і рэалізацыі рашэння Гродзенскага гарвыканкома ад 20 снежня 1995 года № 653 аб стварэнні ліцэя № 1 на базе агульнаадукацыйнай сярэдняй школы № 27 г. Гродна» ад пасад вызвалены мэр горада Г. Крупенка, а таксама загадчыца аддзела адукацыі Ленінскага райвыканкома г. Гродна Л. Маляўка і дырэктар ліцэя Л. Шостка. Строгая вымова аб'яўлена загадчыцы аддзела адукацыі Гродзенскага гарвыканкома Л. Папянюк. Старшыня аблвыканкома А. Дубко папярэджаны аб недапушчальнасці фактаў ушчамлення правоў і законных інтарэсаў жыхароў вобласці, а міністр адукацыі і навукі В. Стражаў — за бескантрольнасць рэфарміравання агульнаадукацыйнай школы.

Магчыма, што падобных аргвывадаў (асабліва што датычыцца звальнення вышэйпамянёных кіраўнікоў) не чакалі нават бацькі, якія ініцыіравалі праверку ліцэя. А бацькі ліцэістаў (прынамсі, многія з іх) былі проста шакіраваны. Яны падрыхтавалі пісьмо Прэзідэнту, дзе просяць Аляксандра Рыгоравіча перагледзець сваё рашэнне па кадравых пытаннях.

Дэпутат В. Чычагаў нагадаў удзельнікам сесіі, што незадоўга да ўказа № 348 А. Лукашэнка прыязджаў у Гродна. У аб'яднанні «Азот» ён азнаёміўся з выстаўкай тавараў гродзенскай вытворчасці. Як здалося дэпутату (дарэчы, работніку «Азота»), Прэзідэнт застаўся задаволены. Таму для В. Чычагава «было ўдарам, што раптам здымаюць мэра, які нешта зрабіў». Тым больш, што раней, як пацвердзіў на сесіі старшыня аблвыканкома А. Дубко, ніякіх наракanняў за хібы ў рабоце Г. Крупенка не меў. А тут адразу атрымаў па максімуму. Пры гэтым члены камісіі, якія правяралі ліцэй, нават не сустрэліся з мэрам горада, каб выслухаць яго тлумачэнні. У 6 гадзін вечара Г. Крупенку патэлефанаваў А. Дубко, а ў 9 аб прэзідэнцкім указе паведаміла тэлебачанне. Дарэчы, подпісу старшыні аблвыканкома на акце камісіі таксама не было...

Сам факт свайго звальнення Г. Крупенка не расцэньвае як трагедыю. Іншая справа — парадак звальнення, з якім ён не згодны. Аднак незалежна ад таго, як прагаласуюць дэпутаты, заявіў Генрых Аляксандравіч, ён не будзе працаваць старшынёй гарвыканкома, бо не хоча заставацца ў такой камандзе. Работу ж сабе, па словах Г. Крупенкі, ён у горадзе знойдзе. Толькі ў аблвыканкоме яму прапанавалі на выбар ажно 5 пасад.

Пасля гэтага старшыня гарсавета Ф. Гудзей прапанаваў сесіі падзякаваць Генрыху Аляксандравічу за работу і прагаласаваць за прадстаўленне аблвыканкома аб вызваленні яго ад пасады. Але з залы пачулася, што дзякаваць яму рана. На думку некаторых дэпутатаў, звальненне мэра горада адбываецца з парушэннем заканадаўства, паколькі адпаведнае рашэнне аблвыканкома з'явілася праз 6 дзён пасля прэзідэнцкага ўказа. Хаця гэта кадравае пытанне ў кампетэнцыі менавіта абласных уладаў. Дэпутат В. Чычагаў лічыць, што такі падыход да вызвалення мэра ад пасады сведчыць аб прыніжэнні кіраўніка абласной адміністрацыі, а таксама аб чарговай непавазе да дэпутатаў. «У такой сітуацыі я галасаваць не магу». Падобную пазіцыю занялі і многія іншыя дэпутаты. У выніку прадстаўленне аблвыканкома аб вызваленні Генрыха Крупенкі ад пасады мэра не набрала неабходнай колькасці галасоў. І тады яго вырашылі звольніць па ўласнаму жаданню. Што і было зроблена.

Новым кіраўніком выканаўчай улады горада стаў Анатоль Пашкевіч, які дагэтуль працаваў намеснікам старшыні аблвыканкома. Асаблівага энтузіязму гэта прызначэнне ў яго не выклікала, бо, па словах А. Пашкевіча, напярэдадні зімы, рэферэндуму і палітычных страсцей на пасаду мэра можа пайсці толькі самазабойца. Такі вось сёння «гумар».

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

***«Чаму нашы журналісты амаль нічога канкрэтнага не паведамілі пра падзеі на Чарнобыльскай АЭС? Вядома, калі няма дакладнай інфармацыі, узнікаюць усялякія чуткі. Вось і мая знаёмая сказала, што быццам бы з Кіева ўжо збіраюцца вывозіць дзяцей. «Звяздзе» я веру, таму прашу больш падрабязна расказаць пра тое, што адбываецца ў Чарнобылі. Мабыць, дыму без агню не бывае».***

**Са званка ў рэдакцыю Ганны ЛАБЦАВАЙ з Мінска.**

**Прызнаемся шчыра: падобных званкоў у «Звязду» было шмат. Тэма Чарнобыля апошнім часам зноў стала дамінуючай у грамадскім транспарце, на рабоце і дома. Што ж на самай справе адбылося на чацвёртым блоку ЧАЭС? Не прэтэндуючы на поўную інфармацыю, мы змяшчаем артыкул нашага карэспандэнта, які на мінулым тыдні наведаў Кіеў.**

***ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ***

# ЧАМУ «СКОКНУЛІ» НЕЙТРОНЫ Ў «САРКАФАГУ»?

## Як сцвярджаюць украінскія вучоныя, прычына пакуль не выяўлена, але на ЧАЭС «вялікага выбуху» не будзе, хоць небяспека ўсё ж існуе

СТАЛІЦА УКРАІНЫ сустрэла халодным мокрым надвор'ем. Раніцай дарослыя спяшаліся на работу, а дзеці — у школу. Здавалася, нішто не збівае людзей з прывычнага рытму жыцця, але не-не ды чуліся заклапочаныя размовы наконт сітуацыі на Чарнобыльскай АЭС. Гэтай праблеме шмат увагі ўдзялялі газеты, радыё і тэлебачанне. Адказныя асобы пераканааны, што чарговы чарнобыльскі скандал «запушчаны» паведамленнем ГРТ і асабліва падагрэты, як тут лічаць, шакіруючай прэс-канферэнцыяй міністра аховы навакольнага асяроддзя Украіны Юрыем Кастэнкам. Амаль паўсотні журналістам ён зрабіў сенсацыйную заяву: у чацвёртым энергаблоку ЧАЭС (на аб'екце «Укрыццё»), не выключана, адбываецца ланцуговая ядзерная рэакцыя. Міністр падкрэсліў, што ніхто не ведае, чым гэта абернецца. Тады ж ён адразу агаварыўся, што інфармацыі вельмі мала, паколькі да чацвёртага энергаблока проста так не дабярэшся. Таму высновы спецыялістаў базіруюцца, у асноўным, на даных прыбораў і датчыкаў, якія ўстаноўлены ўнутры аб'екта. Першае (і адзінае), што ўдалося дакладна ўстанавіць экспертам, проста шакіруе: «На сённяшні дзень немагчыма дакладна адказаць, з чым звязаны гэтыя сігналы».

Міністр канстатаваў, што, верагодна, павелічэнне патоку нейтронаў да 316 на сантыметр квадратны ў секунду (норма — каля 80) 12, 16 і 19 верасня зафіксавана ў памяшканні 304/3, якое непасрэдна кантактуе з рэактарам. У асноўным, менавіта ў гэтым месцы і сканцэнтраваны паліўныя масы, якія давалі энергію, калі блок працаваў.

Чаму ж адбылося павелічэнне нейтроннага патоку? Паводле слоў міністра, гэта звязана з дажджавой вадой, якая мае ўласцівасць пранікаць праз шматлікія шчыліны ў аб'екце «Укрыццё». Калі вада трапляе ў энергаблок — пачынаецца рэакцыя, калі вада выпараецца — рэакцыя прыпыняецца. «Лепш горкая праўда, чым салодкі падман», — сказаў Кастэнка.

Магчыма, менавіта гэтыя словы выклікалі нервовую рэакцыю не толькі ў замежных назіральнікаў, але нават і ва Украіне. На брыфінгу ў Адміністрацыі Прэзідэнта сакратар Савета нацыянальнай бяспекі Украіны Уладзімір Гарбулін ледзь не прама абвінаваціў Ю. Кастэнку ў некампетэнтнасці. Павышэнне нейтроннага патоку і гама-выпраменьвання на аб'екце «Укрыццё» Чарнобыльскай АЭС ніякай пагрозы для насельніцтва і персаналу станцыі не ўяўляе, заявіў саветнік Прэзідэнта Украіны па пытаннях ядзернай бяспекі, віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Украіны Віктар Бар'яхтар, які з'яўляецца таксама навуковым кіраўніком Міжведамаснага навукова-тэхнічнага цэнтра (МНТЦ) «Укрыццё». Ён падкрэсліў, што не падзяляе пункту погляду міністра аховы навакольнага асяроддзя і ядзернай бяспекі Украіны Юрыя Кастэнкі аб магчымасці цеплавога выбуху, выказанага на прэс-канферэнцыі. «Ніякіх умоў для цеплавога выбуху няма», — сказаў акадэмік. Для яго ўзнікнення неабходна, каб «дастаткова доўга ішла ланцуговая рэакцыя і ўсё вакол разагрэлася да тэмпературы 900—1000 градусаў па Цэльсію».

Больш дэталёва сітуацыя ў чацвёртым энергаблоку разглядалася ў мінулую сераду на пасяджэнні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Украіны, дзе сабраліся буйнейшыя вучоныя гэтай краіны, якія вядуць даследаванні на аб'екце «Укрыццё». На ім пункт погляду вучоных быў канчаткова скарэкціраваны, хоць па некаторых пытаннях яны не былі такія аднадушныя.

Да гэтага часу дэбатуецца пытанне аб колькасці ядзернага паліва пад «саркафагам». Ад таго, колькі, дзе і наколькі кампактна яно размешчана, залежыць многае ў яго далейшых паводзінах. У паведамленні таго ж Віктара Бар'яхтара і генеральнага дырэктара МНТЦ «Укрыццё» члена-карэспандэнта НАН Украіны Аляксандра Ключнікава адзначалася, што ядзернае паліва на аб'екце ўяўляе трайную небяспеку: ядзерную, радыяцыйную і радыеэкалагічную. Яго засталося там шмат. З ім і звязаны ўсе праблемы. Да яго не падысці, убачыць на свае вочы немагчыма. Тым не менш, удалося выявіць, што паліва знаходзіцца ў самых розных відах. Гэта і фрагменты актыўнай зоны рэактара, выбухам закінутыя на верхнія паверхі блока і выкінутыя ў цэнтральную залу (60—70 тон). Гэта і драбнюткі паліўны пыл і аэразолі памерам ад долей да соцень мікрон, якія распаўсюдзіліся практычна ва ўсіх памяшканнях «Укрыцця» (каля 10 тон). Гэта і радыеактыўная лава, якая ўтварылася ў час аварыі і расцяклася па падрэактарных памяшканнях (1260 тон, з якіх колькасць паліва, мяркуецца, каля 90 тон). Ёсць там таксама і водныя растворы солей урану (па ацэнках, іх колькасць вагаецца ад некалькіх соцень літраў да некалькіх тон), якія працягваюць накоплівацца. Усе вышэйпрыведзеныя лічбы ацэначныя, паколькі зразумела, што ўзважыць гэта на вагах ніхто не рызыкне. Вучоныя пацвердзілі тую небяспеку, якую ўяўляе паліва ў «саркафагу», і чым далей — тым большую.

«У асяроддзі, якое ўтрымлівае матэрыялы, што дзеляцца, — гаворыцца ў паведамленні вучоных, — пад уздзеяннем нейтронаў могуць адбывацца акты дзялення з наступным выхадам нейтронаў». Справа ў тым, што можа ўзнікнуць сітуацыя, калі іх колькасць будзе дастатковай для ўзнікнення самападтрымліваючай ланцуговай рэакцыі (СЛР). Аб выбуху, тым больш ядзерным, размовы быць не можа. Вучоныя гэта гарантуюць. Але калі ўзнікне СЛР, дык рэзка пагоршыцца радыяцыйная абстаноўка ўнутры «Укрыцця».

У першыя гады пасля аварыі, адзначылі вучоныя, радыеактыўная лава ўяўляла сабой гарачую (вышэй за 100°С) шклопадобную масу з непранікальнай для вады трывалай глянцавай паверхняй. Але з цягам часу яна «пастарэла», астудзілася да 40—45 градусаў, растрэскалася. Цяпер ва «Укрыццё» часта трапляе вада.

Першы выпадак павышэння нейтроннага патоку быў зафіксаваны 12 студзеня бягучага года ў падрэактарных памяшканнях, дзе знаходзіцца каля 75 тон ядзернага паліва пры моцным гама-фоне (1500 р/гадз.). І вось яшчэ тры выпадкі — 12, 16 і 19 верасня.

*Вось як апошнім часам бачыцца сітуацыя на ЧАЭС доктару фізіка-матэматычных навук, кіраўніку аддзялення МНТЦ «Укрыццё» Аляксандру БАРАВОМУ:*



— Адзначаныя працэсы адбыліся ў двух памяшканнях, дзе сабралася больш за ўсё паліваўтрымліваючай лавы. У 305-м памяшканні ёсць прастора, куды мы не можам дабрацца і зразумець, што там унутры. Мы не змаглі ўзяць пробу лавы — настолькі яна актыўная. Павышэнне нейтроннага патоку адбылося менавіта там, дзе мы і прадказвалі. Але ва «Укрыцці» не можа быць ядзернага выбуху. Для яго неабходна, каб уран быў сціснуты пад абалонкай. Ва «Укрыцці» маса прагрэецца і разваліцца. Безумоўна, з'явяцца прадукты распаду, будзе выкід. І людзі на пляцоўцы ЧАЭС атрымаюць каля 1 бэра (гадавая доза — 5 бэр), чаго дапусціць нельга. Але гэта не катастрофа. Цяпер зразумела, што трэба рабіць. Мы прапанавалі тры праграмы — па вадзе, пылу і ядзернай бяспецы. Іх трэба выканаць. Каб выключыць нават верагоднасць з'яўлення СЛР, мы прапануем увесці ў зоны, дзе яны магчымы, паглынальнікі (стрыжні ці парашок). Добра, што там дастаткова свідравін. Ды і лава ўжо не тая, што раней была. Хутка пасля аварыі, каб узяць пробу, прыходзілася біць па ёй бранябойнымі кулямі. Цяпер яна асыпаецца.

Ва «Укрыцці» працуе сістэма «Фініш» і сістэма апавяшчэння аб узнікненні СЛР. Абедзве сістэмы зарэгістравалі павелічэнне нейтроннага патоку. Мы дасканала праверылі апаратуру і знялі з яе падазрэнні. Прычына экссэсаў, на мой погляд, заключаецца ў тым, што значны прыток вады палепшыў рэгістрацыю нейтронаў (я не буду ўдавацца ў тонкасці работы датчыкаў). Колькасць нейтронаў не змянілася. Проста нейтронныя камеры пачалі лепш працаваць! Такім чынам, ніякага павышэння на самай справе няма. Нашы разлікі паказваюць, што гэта цалкам магчыма, калі назіраецца рост у 3—5 разоў, як у цяперашняй сітуацыі.

Думаю, існуе і яшчэ адна прычына. У аб'екце ёсць абагачаны уран. У ім нейтроны выклікаюць дзяленне. А прысутнасць вады садзейнічае гэтаму. Але каэфіцыент расчаплення далёкі ад таго, пры якім узнікае СЛР. Праўда, «Укрыццё» — такая «рэч у сабе», што гаварыць пра яго штосьці з абсалютнай перакананасцю я не магу. І ніхто не можа. Таму, акрамя проста павышэння бяспекі аб'екта, яго неабходна даследаваць, а значыць, не адставаць ад працэсаў, якія там адбываюцца. А для гэтага патрэбны грошы, і немалыя.

На пытанне карэспандэнта, ці трэба хвалявацца людзям, Аляксандр Баравы адказаў адмоўна: «Панікаваць заўчасна. Аб'ект унікальны, патрэбны вялікія намаганні, каб трымаць пад кантролем «саркафаг», які працягвае, на жаль, рыхтаваць свае сюрпрызы».

Што ж, прыходзіцца верыць вучоным, якія працуюць на бяспеку чацвёртага блока ЧАЭС. Тым не менш, некаторыя назіральнікі зацікавіліся, чаму цяперашняе павелічэнне нейтроннага патоку зафіксавана менавіта ў тыя дні, калі Юрый Кастэнка знаходзіўся ў Аўстрыі, на саракавой сесіі Генеральнай канферэнцыі МАГАТЭ, дзе на парадку дня стаяла вострае для Беларусі і Украіны пытанне — бяспечнае выкарыстанне ядзернай энергіі. Дарэчы, там абмяркоўвалася і праграма ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы, і пытанні фінансавання гэтай праграмы. Той жа Юрый Кастэнка заявіў у Вене, што прамаруджванне з праблемай прадастаўлення грошай «можа пашкодзіць рэалізацыі рашэння аб закрыцці ЧАЭС у 2000 годзе». Як вядома, 11 кастрычніка ў Парыжы пачнуцца перагаворы па праблеме закрыцця ЧАЭС, яе фінансавання. Калі яны пройдуць паспяхова, украінскі ўрад атрымае 118 мільёнаў ЭКЮ.

Безумоўна, назіральнікі ці хто-небудзь іншы могуць выказваць свае меркаванні, прагнозы. Але факт небяспекі на ЧАЭС існаваў, існуе і з цягам часу ён будзе ўзмацняцца. Таму, як ні круці, сусветнаму супольніцтву ўсё роўна прыйдзецца прымаць усе магчымыя меры, каб стабілізаваць вядомы аб'ект «Укрыццё». Інакш ён будзе вярэдзіць душы не толькі беларусаў, украінцаў, рускіх, але і грамадзян іншых краін, кіраўніцтва якіх, мякка кажучы, апошнім часам абыякава ставіцца да аказання дапамогі па ліквідацыі наступстваў аварыі.

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ,**
**кар. «Звязды»**
Мінск—Кіеў—Мінск.

***ПАСЛЯ ПАДЗЕІ***

# *БЕНЕФІС ЭЛЕАНОРЫ. САПРАЎДЫ — НЕПАДРАЖАЛЬНАЙ...*

**У панядзелак, у дзень Надзеі, Веры і Любові, адбыўся бенефіс Элеаноры ЯЗЕРСКАЙ — аўтара і вядучай папулярнага «МУЗЫЧНАГА САЛОНА» на Беларускім тэлебачанні**



Многія ў гэты бясконца доўгі (амаль да поўначы!) вечар гаварылі пра тое, што ў яе няма званняў, аднак у яе ёсць Імя — а гэта рэч куды больш каштоўная, чым любая ўзнагарода... А мне падумалася: як дзіўна, пра людзей знакамітых звычайна гавораць: «Гэта прозвішча стала імем». З Элеанорай атрымалася наадварот: яе імя стала яе прозвішчам. Калі гаварыць пра Элеанору, прозвішча можна і не ўдакладняць.

Прыкладам для Элеаноры заўсёды была мадам Коко Шанель, яна любіць паўтараць услед за француженкай: «Прырода дорыць вам твар у 20 гадоў, жыццё мадэлірує яго ў 30, а ў 50 вы павінны заслужыць яго самі». Колькі пранікнёных слоў было сказана «гаспадыні балю»: залатая жанчына, чароўная, натхнёная і паэтычная, цудоўная, надзвычайная, казачная, экстравагантная... Той рэдкі выпадак, калі жанчына на працягу многіх гадоў захоўвае прывабнасць і абаяльнасць і застаецца таленавітай, неардынарнай асобай, надзеленай бліскучым пачуццём гумару, далікатнасцю, высокім густам, тонкім розумам. Нездарма ў «бенефісным» салоне Элеаноры адбыўся сапраўдны «зорны» парад артыстаў беларускай эстрады, класічнай і народнай музыкі, оперы, аперэты, цырка.

Намеснікі міністра культуры Рэспублікі Беларусь У. Рылатка і Ю. Цвяткоў паведамілі, што міністэрскія паклоннікі Элеаноры назвалі яе каралевай музычнай журналістыкі. «Здабытак нашай рэспублікі», — сказалі пра Элеанору Аляксандр Ціхановіч і Ядвіга Паплаўская. Старшыня Саюза кампазітараў Беларусі Ігар Лучанок успомніў, як быў выкладчыкам Язерскай у кансерваторыі: «Яна ў мяне фугі пісала!» Кампазітар Эдуард Ханок з гонарам сказаў, што сустракаў Элеанору ў Мінскім музвучылішчы (праўда, адразу ўдакладніў, што сам вучыўся на старэйшых курсах).

Гаспадыня салона натхнёна дэкламавала напісаныя «даўным-даўно» радкі Генадзя Бураўкіна: «Каму на радасць, каму на гора сюды прыехала Элеанора!» А паэт прапанаваў новыя жартаўлівыя радкі (цытую па памяці):

*Яна заўсёды ў тэле,*
*Яна заўсёды ў целе.*
*Ад чар Элеаноры*
*Вам не схавацца ў норы,*
*Калі яна ў гуморы,*
*Дастане з-пад зямлі!*

Мастак Леанід Дударэнка пераконваў шаноўную публіку: «Калі б праграму «Сельская гадзіна» вяла Элеанора, ие б таксама глядзелі!.. Гэта жанчына быццам бы сышла з палотнаў Рубенса...

Элеанора не толькі прымала віншаванні і кветкі, прадстаўляла сваіх таленавітых сяброў, чытала вершы, радавала гасцей феерверкам жартаў і ўласных таямніц накшталт: «Вечнае каханне працягваецца толькі крышачку даўжэй, чым звычайнае!» Элеанора — спявала. Пранізліва-трапяткую песню пра Парыж і каханне. Разам з Элеанорай спяваў Віталі Жукофф. Пікантны дуэт многія (шэптам) параўноўвалі з яшчэ адным дуэтам, толькі ўжо расійскай эстрады... Хапаю сама сябе за руку: усё- такі не вытрымала, не абышлася без чутак-плётак. Прынамсі, Элеанора ўжо даўно ахутана шчыльнай сеткай плётак — без гэтага, магчыма, яна і не стала б жанчынай, якую ведаюць усе?.. У нядзелю, дарэчы, быў чарговы музычны салон «Вас запрашае Элеанора Язерская» — з удзелам Вахтанга Кікабідзе. Аднойчы, памятаю, спытала Элеанору пра самую прыемную, але непраўдзівую плётку. Смеючыся, яна адказала:... «Што белую норкавую накідку мне падарыў Буба Кікабідзе»...

Ах, гэтыя чуткі, плёткі!.. Як толькі чалавек выдзяляецца, вылучаецца сярод іншых — талентам, розумам, прывабнасцю, — яго не пакідаюць у спакоі. Зайздрасць, гавораць, найгоршае з пачуццяў. Але шэранькім асобам не зайздросцяць ніколі. Так што Элеаноры і надалей хочацца пажадаць як мага больш зайздроснікаў.

На бенефіс каралевы музычнай журналістыкі сабраўся амаль увесь сталічны бамонд. Гэта быў вельмі прыгожы вечар, прасякнуты вытанчанай атмасферай салоннасці, водарам «мільёна пунсовых ружаў» і, як заўсёды, незвычайнасцю шыкоўных туалетаў Каралевы.

Брава, Элеанора!

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

# ЖЫЦЦЁ — ВАКЗАЛ

**ВАКЗАЛ — гэта своеасаблівая Мекка кожнага горада, я не маю на ўвазе важнасць і нейкі ідэалагічны падтэкст (хаця і яны тут таксама прысутнічаюць), а перш за ўсё прыйшло такое параўнанне ў сувязі з неад'емным натоўпам, які вечна некуды спяшаецца, віруе. Прычына вакзальнага жыцця ў кожнага прысутнага тут свая, бывае, незразумелая іншым. Так, памятаю, адна бабулька, здзіўлена азіраючы вакзальнае шматлюддзе, неўразумела спыталася: «І куды ўсе едуць? Я дык да сына, а ўсе астатнія куды?»**

## «БУЛЬБАЧКІ НЕ ЖАДАЕЦЕ?»

Гэтую групу людзей, якая вельмі павялічылася апошнім часам, выдзяляе сярод шматлікіх ад'язджаючых не адсутнасць валізак, нават не стрыманае хваляванне з мэтай знайсці патрэбны чыгуначны пуць, на які павінен прыйсці цягнік. Іх выдзяляе спакойнае чаканне свайго часу, які павінен настаць пасля аб'явы хрыплаватага голасу па вакзальным радыё, якая гучыць як заклік да дзеяння. Людзі, пачуўшы аб'яву накшталт: «Цягнік Варшава—Масква прыбывае на пяты пуць. Стаянка дзесяць хвілін», адразу кідаюцца літаральна пад колы з торбамі ў руках. Але яны не імкнуцца трапіць у Маскву ці Варшаву. Яны — «лявагонны рэстаран», хадзячыя «кафетэрыі» Аршанскага чыгуначнага вакзала. Парадзішш на шэрагі такіх вось «харчавікоў» — і адразу з'яўляецца воўчы апетыт. Мяркуйце самі: непадалёку стаіць бабулька з каструлькай, адкуль ідзе духмяная пара. Яна здымае накрыўку перад кожным з пасажыраў падышоўшага цягніка і зычна крычыць: «Смачная бульбачка, запраўленая смажаным салам і цыбуляй. Пальчыкі абліжаце». Таксама ў старой ёсць салёныя агуркі, смятана, тварог, булкі, чорны хлеб, кетчуп, нават хрэн. Цэны даволі сціплыя: так, «бульбачка» ідзе па дзесяць тысяч зайцоў за каструльку, хацям звычайна даюць дзве-тры тысячы расійскіх рублёў, а могуць нават долар сунуць. Калі ж дадуць і «дваццатку», дык, на здзіўленне, у старой заўсёды знойдзецца здача.

Мяне ўласна ўсё гэта вельмі ўразіла, як можна знайсці зараз дзевятнаццаць долараў? Аказваецца, Галіна Васільеўна (так яна назвалася) загадзя запасаецца дробнымі купюрамі іншаземнай валюты. Аднак калі-нікалі можа і схітраваць — даць васемнаццаць долараў замест дзевятнаццаці. Глядзіш, за дзень якая «дзесятка» такім чынам і набягае. Што ж датычыцца страў, якія яна прапануе, то тут яно разгортваецца ва ўсёй прыгажосці гастранамічны талент Васільеўны (як завуць яе «калегі»): «бульбачка» сапраўды вельмі смачная, мне прыйшлося яе паспытаць з ветлівага дазволу бабулькі. Адна бяда — хутка астывае, а як яе потым прадаваць, перад людзьмі ж брыдка. Стане бульбяное пюрэ «як кол», тады хоць разаграваць бяжы. «А чаму б і не разагрэць», — меніваўся такая думка ўзнікла, напэўна, калісьці ў Васільеўны, і дагаварылася яна з працаўнікамі вакзальнага буфета накшталт супрацоўніцтва. «Дагавор» падмацаваны штомесячнай платай за падаграванне буфетчыцамі бабульчынай «бульбачкі»: зараз яна вымяраецца трохлітровым слоікам якіх-небудзь саленняў. На іх Васільеўна майстрыха. Пры размове аб кошце свайго тавару Васільеўна, хітра ўсміхнуўшыся, прагаварыла: «На месцы вырашаем».

Таму я і вырашыў да наступнага цягніка — ці то «Вільнюс—Масква», ці то «Берлін—Масква», выйсці разам са старою. За дзесяць хвілін стаянкі тая прадала: «бульбачкі» адну каструльку — за тры тысячы расійскіх рублёў, шклянацку смятаны — за дзве, слоік грыбоў (ажно за пяць долараў), ну яшчэ пару булак і бутэльку ліманаду (дзве тысячы). Як бачым, выручка склала сем тысяч расійскіх рублёў і пяць долараў, што пры грубым пераліку азначае суму амаль у сто тысяч «зайцоў». Калі ж улічыць, што такіх паяздоў праходзіць праз аршанскі вакзал няхай штук дзесяць, а Васільеўна падбяжыць да трох—пяці, то атрымліваецца да трохсот—пяцісот тысяч у пераліку на беларускія рублі. Зусім нядрэнна, калі мець на ўвазе, што яе пенсія...у два разы меншая за дзённы заробак у якасці «лявагоннага рэстарана».

Пачалося гэта дзесьці каля года таму: сын купляў нейкую патрэбную для гаспадаркі рэч, яму неабходна была грашовая дапамога. Ну як маці можа не прыйсці на выручку? Вось і надумалася Васільеўна на ўласныя страх і рызыку адправіцца на вакзал са сваім (якое потым стала «фірменным») блюдам — «бульбачкай». Потым яшчэ і яшчэ, з'явілся даволі немалыя грошы, пачалася «камерцыйная вучоба» — абмен грошай, перагаворы з міліцыяй. Мне давялося назіраць (краем вока, праўда, бо Васільеўна завяла маладога сяржанціка на самыя задворкі аршанскага вакзала) перамовы старой «карабейніцы» з супрацоўнікам унутраных спраў. Той спачатку нешта вельмі строга і горача гаварыў, махаў рукамі, потым Васільеўна кінулася ў плач і, між іншым, працягнула ў выглядзе «падарунка» ахоўніку парадку... пачак цыгарэт. Той адмовіўся і адыйшоў, махнуўшы рукою. Па словах старой, такія размовы адбываюцца даволі рэдка, толькі калі на вакзале з'яўляюцца новыя асобы ў міліцэйскай форме. З усімі пастаяннымі яна ўжо пазнаёмілася, дакладней — прыйшлося пазнаёміцца. Бо, знаходзячыся тут пяць разоў на тыдзень (на выходныя Васільеўна са сваім сынам ездзяць на дачу ў Ламачына, што кіламетраў за дзесяць—пятнаццаць ад Оршы, і працуюць там на сваім участку), трапляеш у розныя сітуацыі, і не раз.

«Бізнес» дазволіў старой актыўна дапамагаць дзецям, больш часта радаваць унукаў падарункамі. А калі задумацца, то паслугі Васільеўны выглядаюць больш шчырымі на фоне астатніх аршанскіх «лявагонніКаў», бо гандлюе яна ўласна вырабленымі прадуктамі — той жа «бульбачкай», разнасолмі. Яе «калегі» робяць інакш: проста купляюць на вакзале ці ў магазіне тыя ж батоны і ліманад і, прайшоўшы некалькі крокаў да цягніка, прадаюць ужо па цане ў два, а то і тры разы большай за выходную. Менавіта на такіх «камерсантаў» супрацоўнікі міліцыі «маюць зуб». Але і тут мне ўспамінаюцца словы адной маладой «лявагонніцы», якая сказала ў адказ на мае папрокі: «А вы паспрабуйце на дапамогу, якую мне дае дзяржава, малое дзіця пракарміць. Яно ж не разумее ўсіх эканамічных цяжкасцей у краіне, крычыць, просіць есці. Дзеля гэтага зараз хоць на панель пойдзеш!..»

## МЕТАДЫ ЗБОРУ ПІЎНЫХ БУТЭЛЕК

«Лявагоннікі» — своеасаблівая вакзальная «эліта», людзі, якія маюць даволі высокія даходы (я не беру, вядома, пад увагу камерсантаў-ларочнікаў). Далей, як давялося даведацца, сярод заўсёднікаў вакзальнага натоўпу больш-менш пастаянныя заробкі маюць «бутэлечнікі». «Вакзал — гэта вялікае поле, падзеленае паміж шэрагам асоб», — так зазначыў у пачатку размовы са мною на Мінскім чыгуначным вакзале маладжавы дзядок, які назваўся Пашам. Мяжа паміж «бутэлечнікамі» вымерана літаральна крокамі, хоць ты бяры мел, малюй елачку і пускай вартавых сабак. Ідзе сапраўдная бітва за «кліентаў»: усім нам прыходзілася хоць раз у жыцці сутыкнуцца нечакана ў момант выпіваня бутэлькі піва з востлым позіркам чалавека, які стаяў непадалёку. Заўважыўшы ваш позірк, ён заўсёды ветліва пытаецца: «Вам бутэлька патрэбна?» (як варыянт: «Вы бутэльку будзеце забіраць?») «Кліент» (гэта значыць той чалавек, які ўжывае напой) можа адрэагаваць па-рознаму: можа адказаць грозна «буду», можа проста кіўнуць галавою ў знак згоды, а то і прагнаць надакучлівага «бізнесмена».

Вакзал для «бутэлечнікаў» — пажыўное месца, таму што колькі тут выпіваецца піва, ліманаду, гарэлкі, каньяку, шампанскага (праўда, менавіта бутэлькі з-пад шампанскага не карыстаюцца попытам), мінералкі — падлічыць цяжка. Асноўную колькасць «бутэлечнікаў» складаюць, на думку Пашы, усё ж састарэлыя прадстаўніцы жаночага полу.

«Бутэлечнікі» свой тавар на вакзале звычайна не здаюць (тут цана заніжана), а адносяць далей з мэтай больш выгаднага ім гандлю. А гандаль неблагі: калі-небудзь і сотню бутэлек даводзіцца сабраць. Узнікаюць, вядома, праблемы з транспарціроўкай, таму і працуюць бабулі пераважна з напарнікамі — унукамі. Той хутка засвойвае ўсе хітрыкі і праз тыдзень-другі круціцца як юон на пятэльні, здабываючы бутэлькі.

Лёсы людзей, якія сталі на шлях «шкляного бізнесу», даволі розныя. Так, Паша, напрыклад, працаваў усё жыццё на адным з мінскіх заводаў і аднойчы паспрабаваў заняцца зараблянем грошай на вакзале. Ёсць прадстаўнікі розных прафесій — нават адзін ці то мастак, ці то паэт. Паша сам не можа іх зразумець. Той дзівак, па словах майго суразмоўцы, грошы ад збору бутэлек пускае на віно, запрашаючы потым пачаставаць усіх «бутэлечнікаў». Пасля чытае вершы. Паша памятае, што ў адным з іх былі словы «покалечила ты, жизнь, исковеркала». «Ён, напэўна, біч», — робіць выснову Паша. І дабаўляе потым расшыфроўку: былы чалавек. Цікава, што сам мой суразмоўца горка ўздыхнуў, прамовіўшы гэтыя словы. Відаць, адносіць іх і да сябе, да ўласнага становішча ў гэтым свеце...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**



## ВІНШАВАННІ

Віншуем з днём нараджэння Андрэя Андрэевіча Шкурко з в. Кавалі Брагінскага раёна. Жадаем моцнага здароўя, шчасця.

**Родныя.**

Віншуем з днём нараджэння Ганну Іванаўну Міхайлаву. Жадаем моцнага здароўя, творчых поспехаў.

**Лук'янчыкі.**

Дарагія Юра і Павел! Віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і працы.

**Уласень Іван і Вера з Турца.**

Ад усёй душы віншую дарагога брата Анатоля Нерада з Бераставіцы з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, весялосці і дабрабыту.

**Ганна Лукавенкава з г. Гродна.**

Дарагая мамачка, Галіна Фёдараўна Драбуш! Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем усяго самага найлепшага.

**Муж і дзеці Лена, Паша, Арцём.**

Віншуем з днём настаўніка Веру Максімаўну Цюшкевіч і Жанну Сяргееўну Макоўчык з в. Малеч Бярозаўскага раёна. Жадаем поспехаў у працы, здароўя, шчасця.

**Сям'я Праліскаў.**

Віншуем з днём нараджэння Аляксандра Іванавіча Гіраеўскага. Жадаем здароўя, дабрабыту, поспехаў у працы.

**Бацькі, сёстры, пляменнікі.**

Віншуем дарагога мужа, бацьку, дзядулю Івана Іванавіча Легуна з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў, доўгіх гадоў жыцця!

**Жонка, дочкі і ўнучка Алёна, г. Мазыр.**



ГРОШЫ

## ВАЛЮТНАЯ І РЭКЛАМНАЯ ПАДТРЫМКА НОВАЙ ЕЎРАПЕЙСКАЙ ВАЛЮТЫ



**Як вядома, праз некалькі гадоў у краінах Еўрапейскага саюза на змену нацыянальным валютам павінна прыйсці адзіная валюта ЕС — еўра. Але, нягледзячы на відавочныя перавагі ўвядзення гэтай грашовай адзінкі, у многіх краінах ЕС яе ўспрымаюць насцярожана. Нямецкаму бюргеру ці французскаму фермеру цяжка змірыцца з тым, што замест звыклых і надзейных марак і франка прыйдзецца выкарыстоўваць нейкую еўра.**

Таму ў некаторых дзяржавах, у той жа Францыі, у якасці эксперыменту дазволілі паралельна з франкам датэрмінова разлічвацца і еўра. Новыя грошы выклікалі цікавасць у першую чаргу ў нумізматаў. Напрыклад, у эльзаскім горадзе Семесце яны скупілі новыя наяўныя грошы.

Каб лепш падрыхтаваць усе слаі насельніцтва да ўвядзення еўра, Еўрапейская камісія (своеасаблівы ўрад ЕС) вырашыла распачаць адпаведную буйную рэкламную кампанію. На яе правядзенне, паводле часопіса «Еўропа», выдзелена па нашых мерках буйная сума — 24 мільёны долараў.

Кампанія ўжо пачалася, але шырокае яе разгортванне чакаецца ў 1997-1998 гг. Плануюцца сумесныя мерапрыемствы ўсіх краін — членаў ЕС: падключэнне да гэтай важнай работы дзяржаўных структур, банкаў, гандлёвых палат, універсітэтаў, маладзёжных арганізацый, выпуск інфармацыйных матэрыялаў, рэкламных ролікаў на тэлебачанні, апытанні насельніцтва і г. д.

**Леанід ТУГАРЫН.**

**На здымку: будучая валюта краін ЕС.**

## СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск | 7.14 | 18.43 | 11.29 |
| Віцебск | 7.05 | 18.33 | 11.28 |
| Магілёў | 7.03 | 18.33 | 11.30 |
| Гомель | 7.01 | 18.28 | 11.27 |
| Гродна | 7.31 | 18.56 | 11.25 |
| Брэст | 7.29 | 19.00 | 11.31 |

**МЕСЯЦ**

Апошняя квадра 4 кастрычніка

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Яўстафія, Міхаіла, Алега
К. Яна, Эвальда

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у Гомельскай і Магілёўскай абласцях пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Гродне, Мінску, Віцебску — 10—12, Брэсце, Магілёве — 12—14, Гомелі — 15—17 градусаў.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў. Тэмпература 4-га ўначы — 3—8, удзень — 11—16; 5-га ўначы — 5—10, удзень — 13—18 градусаў цяпла.

ПОГЛЯД

# ПАГРОЗА БУДУЧЫНІ

На сваім уласным вопыце кожны з нас мог не раз пераканацца: адставанне ніколі не на карысць. Усё лепшае, што дае чалавеку прырода, грамадства, як правіла, дастаецца тым, хто наперадзе. Прытым, чым больш доўжыцца адставанне, тым менш надзей на лепшае застаецца ў адстаючых.

Таму працяглае захаванне глыбокага крызісу, што ахапіў эканоміку і сацыяльную сферу Беларусі, не можа не выклікаць трывогі за нашу будучыню. Асабліва з улікам тых глабальных працэсаў, што адбываюцца зараз у сусветнай эканоміцы.

Нацыянальныя эканомікі асобных краін паступова страчваюць мажлівасць для самаразвіцця. Яны вымушаны ўсё больш і больш падпарадкоўвацца універсальнай сістэме рэгулявання сусветнай эканомікі, якая незваротна стала на шлях паслядоўнай і ўсебаковай інтэрнацыяналізацыі.

Пры гэтым усё большую ролю ў вызначэнні характару глабальнага эканамічнага развіцця адыгрываюць транснацыянальныя карпарацыі. Разам са сваімі шматлікімі філіяламі яны ахапілі ўсю планету, яны валодаюць 1/3 агульнага аб'ёму вытворчых фондаў сусветнага супольніцтва, выпрацоўваюць 40 працэнтаў агульнапланетарнага прадукту, ажыццяўляюць больш за палову знешнегандлёвага абароту, маюць 80 працэнтаў гандлю высокімі тэхналогіямі і кантралююць 90 працэнтаў вывазу капіталу. Дзякуючы свайму агромністаму эканамічнаму патэнцыялу транснацыянальныя карпарацыі маюць рэальную магчымасць істотна ўплываць на дзяржаўную эканамічную палітыку ўрадаў практычна ўсіх краін свету і ў рашаючай меры прадвызначаць дзейнасць розных міжнародных крэдытна-фінансавых арганізацый.

У той жа час рэзка ўзрастае роля навукова-інтэлектуальнага патэнцыялу ў сацыяльна-эканамічным развіцці як асобных краін, так і ўсяго сусветнага супольніцтва цалкам (у папярэднія гады ўзровень эканамічнага і сацыяльнага развіцця прадвызначаўся перш за ўсё і галоўным чынам наяўнасцю вытворчых рэсурсаў). Сёння ўсё часцей і часцей можна пачуць, што на сучасным этапе прадвызначальным фактарам поспеху стала тэхналагічнае лідэрства.

Адначасова падкрэсліваецца, што з цягам часу становіцца ўсё цяжэй і цяжэй аспрэчваць лідэрства ў вытворчасці новых высокіх тэхналогій. Апошняе тлумачыцца цэлым шэрагам доўгатэрміновых аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў.

Галоўны з іх — той звышпрыбытак, які атрымліваюць краіны-лідэры ў распрацоўцы і асваенні новых высокіх тэхналогій. Ён дазваляе гэтым краінам забяспечыць у сябе больш высокі (у параўнанні з сярэднесусветным) узровень як прадукцыйнасці працы, так і эфектыўнасці капітальных укладанняў. А гэта ў сваю чаргу стварае рэальную магчымасць для паскоранага павышэння жыццёвага ўзроўню народа.

Дзякуючы гэтаму краіны, якія захапілі тэхналагічнае лідэрства, з кожным годам становяцца ўсё больш прыцягальнымі як для сусветнага капіталу, так і для носьбітаў навукова-інтэлектуальнага патэнцыялу. Адсталыя ж краіны, наадварот, не толькі застаюцца без знешніх інвестараў, але і ва ўсё большых памерах трацяць свае ўласныя капіталы, якія ў масавым парадку перацякаюць у перадавыя краіны. Следам за капіталам туды ж бягуць і найбольш энергічныя і таленавітыя спецыялісты.

У выніку ў свеце адбываецца імклівая палярызацыя краін па ўзроўню эканамічнага і сацыяльнага развіцця. У той час як асобныя перадавыя краіны хутка багацеюць, астатнія краіны, наадварот, становяцца ўсё больш беднымі. Ператвараюцца ў бездапаможны сыравінны прыдатак краін з высокай прадукцыйнасцю працы, пастаўшчыкоў прыродных рэсурсаў і мазгоў, у якіх самі адчуваюць вострую патрэбу.

Пераканаўчыя звесткі наконт гэтага прыведзены ў дакладзе ААН «Параўнальны аналіз эканамічнага становішча ў розных краінах». У ім, прынамсі, адзначаецца, што з 1960-га па 1993 г. разрыў у гадавым даходзе на душу насельніцтва ў развітых краінах і краінах, якія толькі сталі на шлях развіцця, павялічыўся амаль у тры разы — з 5,7 да 15,4 тыс. долараў ЗША. Пры гэтым у больш чым 100 краінах са 174, па якіх меліся неабходныя даныя, даход на душу насельніцтва зараз меншы, чым ён быў у іх 15 гадоў таму назад. У дзевятнаццаці ж краінах ён знізіўся ў параўнанні з 1960 г. і нават больш раннім перыядам.

Інакш кажучы, па словах кіраўніка Праграмы развіцця ААН (ПРААН) Джэймса Густава Спета, сёння больш за чвэрць насельніцтва планеты, альбо 1,6 млрд. чалавек, сталі жыць горш, чым яны жылі 15 гадоў таму. У палоне беднасці знаходзяцца прыкладна тры пятыя зямлян. І гэта, заўважым, нягледзячы на тое, што з 1960-га па 1993 г. глабальныя даходы павялічыліся ў шэсць разоў, а сярэдні даход на душу насельніцтва ў свеце патроіўся.

Прыведзеныя лічбы з'яўляюцца яскравым сведчаннем таго, што пастулальнае сацыяльна-эканамічнае развіццё ўсяго сусветнага супольніцтва яшчэ не з'яўляецца гарантыяй павышэння ўзроўню эканамічнага і сацыяльнага развіцця асобнай краіны. І ў такіх умовах многія з іх могуць доўгімі дзесяцігоддзямі знаходзіцца ў заняпадзе. Гэта прымушае нас па-новаму падысці да ацэнкі як той сітуацыі, што склалася зараз у нашай эканоміцы і сацыяльнай сферы, так і нашых паводзінаў у дадзеных умовах.

Па-першае, усім нам трэба ўсвядоміць, што той глыбокі і працяглы сацыяльна-эканамічны крызіс, які перажывае сёння Беларусь, тоіць у сабе велізарную і ў той жа час зусім рэальную пагрозу нашай будучыні, прытым з пункту погляду як беларускай дзяржаўнасці, так і кожнага асобнага грамадзяніна. А таму адносіцца да сучаснага крызісу трэба з усёй сур'ёзнасцю, рабіць усё для таго, каб як мага хутчэй яго перадолець і такім чынам пастарацца пазбегнуць такога істотнага адставання ад перадавых краін свету ў навукова-тэхнічным і сацыяльна-эканамічным развіцці, якое нам ужо ніколі не пераадолець.

Па-другое, адвесці ад сябе гэтую смяротную пагрозу мы павінны толькі самі, асабліва не спадзеючыся ні на кога. Трэба нават адкінуць саму думку аб тым, быццам якаясьці з вялікіх краін Захаду ці Усходу абавязкова павінна прыйсці нам на дапамогу, і неадкладна пачаць дзейнічаць.

Нашы намаганні павінны быць скіраваны на захаванне, а пры мажлівасці — і на памнажэнне фактараў навукова-тэхнічнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця. Я маю на ўвазе перш за ўсё яшчэ даволі магутны навукова-інтэлектуальны патэнцыял і адносна высокі тэхніка-тэхналагічны ўзровень шэрага важнейшых галін беларускай эканомікі.

На вялікі жаль, за апошнія гады ў гэтых адносінах мы панеслі вялікія страты. Так, за 1990—1995 гг. агульная колькасць занятых у сферы навукі і навуковага абслугоўвання народнай гаспадаркі Беларусі скарацілася больш чым удвая — з 102,6 да 45,7 тыс. чалавек, што, несумненна, служыць пераканаўчым доказам вельмі істотнага змяншэння навукова-інтэлектуальнага патэнцыялу нашай краіны — нават пры ўмове, што скарачэнне кадравага патэнцыялу беларускай навукі адбылося пераважна за кошт пераходу работнікаў навукова-даследчых устаноў у іншыя сферы народнай гаспадаркі Беларусі, а не па прычыне ўцечкі мазгоў за мяжу.

Не менш хуткімі тэмпамі трацім мы раней з такімі цяжкасцямі заваяваныя пазіцыі і ў галіне развіцця тэхнікі і тэхналогіі. І ў гэтым, дарэчы, няма нічога дзіўнага. Бо, як вядома, за апошнія гады тэмпы навукова-тэхнічнага прагрэсу ў свеце значна ўзраслі, і ўсякія прамаруджванні якой-небудзь краіны з ажыццяўленнем неабходных мерапрыемстваў па ўдасканаленню тэхнікі і тэхналогіі вытворчасці непазбежна адразу ж выкарыстоўваюцца іншымі краінамі для таго, каб пацясніць яе на рынку новых высокіх тэхналогій.

Як бы цяжка ні было, адзначаныя негатыўныя тэндэнцыі неабходна пераадолець. І як мага хутчэй. Калі мы сапраўды жадаем бачыць сваю Бацькаўшчыну суверэннай квітнеючай краінай.

Чаго нам для гэтага сёння нестае? Вельмі многага. Аб усім гэтым адразу і не скажаш. Таму спынюся толькі на адным, аб чым мы чамусьці лічым за лепшае маўчаць, хоць гэтаму, на маю думку, і належыць рашаючая роля ў нашым усебаковым абнаўленні і далейшым развіцці.

Я хачу павесці размову аб канфрантацыі і яе нязменных спадарожніках, што запаланілі ўсё наша грамадскае жыццё і, па сутнасці, сталі галоўнай перашкодай на шляху стваральнай працы. Усе мы зараз з жахам назіраем за той бескампраміснай барацьбой, якая разгарэлася апошнім часам паміж рознымі галінамі ўлады і палітычнымі партыямі, добра разумеючы, што пераможцаў у ёй не будзе. Затое пацярпеўшых будзе вельмі шмат. А найвялікшыя страты, як заўсёды, панясуць ні ў чым не вінаватыя простыя людзі.

Дарэчы, яны ўжо іх нясуць. Прытым немалыя. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова беглага позірку на прыняты Вярхоўным Саветам Дзяржаўны бюджэт Рэспублікі Беларусь на 1996 год. Там, напрыклад, можна ўбачыць, што запланаваныя на бягучы год расходы на ўтрыманне папраўча-працоўных калоній у 1,7 раза перавышаюць выдаткі на культуру. На абарону дзяржава вызначыла прыкладна на 160 млрд. руб. больш, чым на адукацыю. Утрыманне ж МУС, унутраных войскаў, органаў дзяржбяспекі і службы бяспекі Прэзідэнта абыдзецца для Беларусі даражэй за ўтрыманне навукі больш чым удвая.

Не трэба быць эканамістам ці палітыкам, каб зразумець: такі дзяржаўны бюджэт накіраваны не на карысць простага чалавека, рэалізацыю ягоных надзённых інтарэсаў. Больш таго, у пэўным сэнсе ігнаруецца нават будучыня ўсяго беларускага народа. Неадзельны ж прыярытэт надаецца дзяржаве, а калі гаварыць больш дакладна, то захаванню ўлады нашымі сённяшнімі дзяржаўнымі кіраўнікамі.

Не менш далёка ва ўзаемным процістаянні зайшлі і многія нашы простыя суграмадзяне. Яскравае сведчанне таму — імклівы рост самых разнастайных правапарушэнняў, у тым ліку цяжкіх злачынстваў. І гэтае процістаянне таксама нясе беларускаму народу вялікія страты. Асобным з нашых суграмадзян яно каштуе самага дарагога — жыцця.

Калі да ўсяго гэтага дадаць тыя невыносныя эканамічныя цяжкасці, якія апошнім часам наваліліся на долю пераважнай большасці нашых сем'яў, то становіцца зразумелым: дамагчыся ад людзей у сучасных умовах самаадданай, напружанай, узгодненай і мэтанакіраванай працы вельмі няпроста. Без ажыццяўлення дзейсных мераў, здольных падняць дух народа, гэтая задача ўвогуле, па майму меркаванню, не можа быць вырашана.

Пры гэтым аснову ўсёй сістэмы мераў павінна скласці вялікая нацыянальная ідэя, прыцягальная для пераважнай большасці беларускага народа. Цэнтральным стрыжнем яе, як сведчыць вопыт многіх іншых краін свету, якім таксама не раз даводзілася ў сваёй гісторыі падымацца з калень, павінны з'явіцца важнейшыя нацыянальна-дзяржаўныя інтарэсы Беларусі, сфакусіраваныя на паслядоўнае будаўніцтва незалежнай дэмакратычнай прававой дзяржавы з квітнеючай эканомікай і сацыяльнай сферай, здольнай забяспечыць кожнаму грамадзяніну (незалежна ад этнічнага паходжання) спрыяльныя ўмовы для як мага больш поўнай рэалізацыі ягонага творчага патэнцыялу, няўхільнага павышэння матэрыяльнага дабрабыту і культурнага ўзроўню жыцця.

З тым, каб вялікая нацыянальная ідэя не засталася на паперы, а на справе стала дзейсным магутным фактарам абнаўлення і паскоранага сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай Бацькаўшчыны, вельмі важна, каб яна была пакладзена ў аснову ўсёй дзяржаўнай палітыкі.

У такім разе, трэба думаць, многае ў нашым грамадскім жыцці пачне радыкальна мяняцца да лепшага. Па-першае, гэта прымусіць начальнікаў самых розных рангаў карэнным чынам змяніць галоўны напрамак сваіх думак і практычных дзеянняў, больш думаць і клапаціцца аб рэалізацыі нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў краіны, а не аб імклівым памнажэнні сваіх уласных даходаў, у тым ліку і за кошт дзяржавы, будаўніцтве палацаў-катэджаў, набыцці прэстыжных іншамарак і г. д.

Па-другое, на паверхню грамадскага жыцця выйдуць найбольш сумленныя нашы суайчыннікі, якія, нягледзячы ні на што, здолелі захаваць і сваю гарачую любоў да Бацькаўшчыны, яе народа, культуры, гісторыі, і сваю гатоўнасць самаадданна служыць ёй «верай і праўдай». Яны паступова складуць тое здаровае ядро, вакол якога пачне гуртавацца ўвесь беларускі народ.

Адраджэнне нацыянальна-патрыятычнага пачуцця, бясспрэчна, прыдасць новыя сілы беларускаму народу, дазволіць нам хутчэй справіцца з цяжкасцямі, што выпалі на нашу долю, і адвесці тыя пагрозы, якія цёмнай хмараю навіслі над нашай будучыняй.

**Генадзь ЛЫЧ,**
**акадэмік, дырэктар Інстытута эканомікі АН Беларусі.**

***АФІЦЫЙНА***

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ НЕКАТОРЫХ МЕРАХ ПА ЗАБЕСПЯЧЭННЮ ВЫКАНАННЯ ПАСТАНОВЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ПАРАДКУ АСВЯТЛЕННЯ СРОДКАМІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ РАБОТЫ ДРУГОЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ТРЫНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь адзначае, што дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі ў большасці выпадкаў неаб'ектыўна, тэндэнцыйна адлюстроўваюцца пасяджэнні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Асабліва гэтым злоўжывае Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія (старшыня Кісель Р. Л.). Так, уключэнне па ініцыятыве Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пытанняў па рэферэндуму і прызначэнне даты рэферэндуму, выкананыя на аснове Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь, былі пададзены тэлерадыёкампаніяй насельніцтву рэспублікі як сур'ёзнае парушэнне заканадаўства, як канстытуцыйны пераварот, як спроба сарваць рэферэндум, ініцыіраваны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Больш таго, спецыяльна прынятая Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь пастанова аб прамой трансляцыі з залы пасяджэнняў сесій Вярхоўнага Савета для больш поўнага і публічнага асвятлення абмяркоўваемага пытання аб правядзенні рэферэндуму тэлерадыёкампаніяй не выканана (трансляцыя вялася, пакуль прысутнічаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь).

Тэлерадыёкампаніяй не выконваецца патрабаванне пастановы аб арганізацыі штотыднёвай тэлевізійнай перадачы «Парламенцкая гадзіна» з удзелам дэпутатаў.

Акрамя таго, тэлерадыёкампаніяй з ліпеня бягучага года не прадастаўляецца магчымасць для выступлення па радыё і тэлебачанні кіраўніцтву Вярхоўнага Савета, прадстаўнікам дэпутацкіх фракцый Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Такім чынам, кіраўніком Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі не выконваюцца не толькі пастановы Вярхоўнага Савета аб асвятленні работы сесій, але і патрабаванні артыкулаў 333 і 335 Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», артыкула 63 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», артыкулаў 33 і 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Рэдакцыямі большасці дзяржаўных газет не апублікаваны да гэтага часу змяненні ў дзеючую цяпер Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія выносяцца на рэферэндум дэпутатамі ад камуністычнай і аграрнай фракцый Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Усё гэта сведчыць аб грубых парушэннях праваў чалавека, небывалай манапалізацыі і жорсткай цэнзуры сродкаў масавай інфармацыі, што наносіць шкоду ў цэлым дзяржаўным і грамадскім інтарэсам.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Патрабаваць ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь неадкладнага прыняцця мераў па безумоўнаму выкананню тэлерадыёкампаніяй і іншымі сродкамі масавай інфармацыі патрабаванняў Канстытуцыі, законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

2. Даручыць Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь Капітану В. С. у адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь ажыццявіць неабходныя меры пракурорскага рэагавання па названых фактах парушэння законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, аб чым інфармаваць Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

3. За сістэматычнае неаб'ектыўнае, тэндэнцыйнае адлюстраванне пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ануляваць акрэдытацыю журналістаў і тэхнічных супрацоўнікаў тэлерадыёкампаніі. Прадаставіць права Рэдакцыйнай камісіі другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання пасля ўстаранення прычын, якія выклікалі невыкананне законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па гэтых пытаннях, аднавіць акрэдытацыю журналістаў і тэхнічных супрацоўнікаў тэлерадыёкампаніі.

4. Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь звярнуцца з просьбай да ўрада і кіраўнікоў сродкаў масавай інфармацыі Расійскай Федэрацыі аб павелічэнні часу тэлерадыётрансляцый па асвятленню работы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

5. Гэта Пастанова ўступае ў сілу з моманту яе прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

27 верасня 1996 г., г. Мінск.
№ 632-XIII

## ПАСТАНОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

### АБ РАСТЛУМАЧЭННІ ПЫТАННЯ, ЯКОЕ ЎЗНІКЛА ПА АЖЫЦЦЯЎЛЕННЮ ПАЎНАМОЦТВАЎ УЧАСТКОВЫХ КАМІСІЙ ПА РЭФЕРЭНДУМУ Ў ВЫБАРЧЫХ АКРУГАХ ПА ВЫБАРАХ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, У ЯКІХ НА 24 ЛІСТАПАДА 1996 ГОДА НАЗНАЧАНЫ ДАДАТКОВЫЯ ПАЎТОРНЫЯ ВЫБАРЫ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У сувязі з узнікшымі пытаннямі па ажыццяўленню паўнамоцтваў участковых камісій па рэферэндуму ў выбарчых акругах па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у якіх 24 лістапада 1996 года ў адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года № 578-XIII будзе адначасова праводзіцца рэспубліканскі рэферэндум, на падставе пункта 1 артыкула 17 Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь», Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў **пастанаўляе:**

Растлумачыць, што ў выбарчых акругах па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у якіх 24 лістапада 1996 года ў адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года № 578-XIII будзе адначасова з дадатковымі паўторнымі выбарамі дэпутатаў праводзіцца рэспубліканскі рэферэндум, паўнамоцтвы ўчастковых камісій па рэферэндуму ажыццяўляюць участковыя камісіі па выбарах дэпутатаў.

**Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В. ГАНЧАР.**
**Сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў І. ЛІХАЧ.**

27 верасня 1996 г.

## Хто ён — Язэп Драздовіч?

Пра Язэпа Драздовіча ў нас, на жаль, ведаюць мала. І гэта ў лепшым выпадку. У горшым — увогуле нічога не ведаюць. Бяспамяцтва — хранічная хвароба жыхароў Беларусі. І многія цяперашнія праблемы нашай краіны — з-за яе.

Язэп Драздовіч — з пакалення Купалы, Коласа, іншых выдатных асоб, што распачыналі адраджэнне Беларусі на мяжы XIX і XX стагоддзяў. Ён быў несправядліва забыты пасля смерці, штучна выкраслены з усенароднай памяці. Але праз тоўшчу гадоў, нягледзячы ні на што, прабіваецца да нас святло духоўнай спадчыны гэтага чалавека. Яго ідэі, плён яго працы — усё гэта аказалася ўспрынятым сёння ўдзячнымі нашчадкамі.

Навуковец Арсень Ліс так характарызуе Драздовіча: універсальны творца беларускай мастацкай культуры, літаратар, асветнік, збіральнік фальклору, даследчык-аматар археалогіі і астраноміі, аўтар арыгінальнай тэорыі руху касмічных аб'ектаў.

Язэп Нарцызавіч... Загадкавасць прысутнічае ўжо нават у тым, што ў засценку Пунькі, што на Дзісеншчыне, жыў мужык, які меў незвычайнае, нетутэйшае імя — Нарцыз. Ён хацеў бачыць свайго сына Язэпа адукаваным, а свой народ — шчаслівым.

Язэп Драздовіч паехаў вучыцца ў Віленскую мастацкую школу, у час вучобы ён супрацоўнічае з газетай «Наша ніва», афармляе «Беларускі каляндар на 1910 год», паэтычны зборнік К. Буйло «Курганная кветка», робіць замалёўкі краявідаў Дзісеншчыны, стварае серыю алегарычных жывапісных карцін на сюжэты з беларускай гісторыі. Разам з Янкам Купалам, братамі Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім і іншымі адраджэнцамі Язэп Драздовіч прымае самы актыўны ўдзел у «збіранні» нацыянальных культурных здабыткаў, у папулярызацыі беларускай гісторыі.

Язэп Драздовіч — аўтар малюнкаў-ілюстрацый да першага беларускага лемантара, які выходзіць у свет у пачатку 20-х гадоў.

20-я гады ўвогуле вельмі плённыя ў жыцці мастака. Ён знаходзіцца ў цэнтры ўсіх падзей: працуе настаўнікам малявання ў 1-й Мінскай беларускай гімназіі, прымае ўдзел у выстаўцы Саюза мастакоў ЛітБела ў Бабруйску.

Але для Беларусі ўсё складваецца неспрыяльна. Зноў яе цела і дух разрываюць на кавалкі. На тэрыторыі Заходняй Беларусі, што ўвайшла ў састаў Польшчы, намаганнямі беларускіх патрыётаў удаецца адкрыць навагрудскую беларускую гімназію. Тры гады, з 1927-га па 1930-ы, тут выкладае малюнак Язэп Драздовіч.

На пачатку 30-х гадоў Драздовіч працуе мастаком-дэкаратарам культурна-асветнага таварыства ў Беластоку «Сейбіт», выдае сваю брашуру «Нябесныя бегі», піша фантастычныя аповесці аб жыцці на іншых планетах. Захапленне космасам прыводзіць мастака да стварэння цэлай серыі жывапісных работ на касмічную тэматыку. Уяўляеце, тагачасная Беларусь і Космас? Фантазія мастака сягае ў нязведаныя прасторы, ён думае пра будучыню...

Язэп Драздовіч пражыў нядоўгае жыццё — усяго 66 гадоў. На Глыбоччыне, на Дзісеншчыне яшчэ памятаюць гэтага чалавека, які вандраваў па мясцовых наваколлях, пісаў з натуры старажытныя курганы і гарадзішчы, старадаўнія замкі і сядзібы, запісваў ад вяскоўцаў мясцовыя гаворкі, збіраў прадметы традыцыйнага беларускага побыту, маляваў для сялян насценныя дываны... Ён жыў як пустэльнік. Ён ніяк не ўпісваўся ў тагачаснае рэгламентаванае таталітарнай дзяржавай жыццё.

Паміраў Язэп Драздовіч у пакутах ад цяжкай хваробы, адзінока, на казённым бальнічным ложку. І толькі праз 28 гадоў пасля смерці Драздовіча (у 1982 годзе) на яго магіле ў вёсцы Лепляны сіламі грамадскасці быў пастаўлены помнік.



*Сядзіба Язэпа Драздовіча ў Пуньках. Восеньскія клопаты дзядзькі Юзіка.*



*Пленэр. Мастак Уладзімір СУЛКОЎСКІ.*

*НА ВІЦЕБШЧЫНЕ ПРАЙШОЎ ПЛЕНЭР, ПРЫСВЕЧАНЫ ЯЗЭПУ ДРАЗДОВІЧУ*

# ПРАЗ ТОЎШЧУ ГАДОЎ ПРАБІВАЕЦЦА СВЯТЛО ЯГО ДУХОЎНАЙ СПАДЧЫНЫ

**25 верасня выдаўся халодны і дажджлівы дзень. Але нягледзячы на непагадзь, аўтобус быў цалкам «укамплектаваны» сталічнай інтэлігенцыяй — вучонымі, пісьменнікамі, мастакамі, паэтамі, журналістамі, якія, адклаўшы ўсе тэрміновыя справы, сабраліся разам, каб адправіцца на Віцебшчыну, на закрыццё пленэра, прысвечанага аднаму з найвыдатнейшых сыноў Беларусі — Язэпу Драздовічу.**



*Шляхамі Язэпа Драздовіча.*

## Мех бульбы — за карціну

Правесці пленэр у наш час — не такая простая справа. Яна патрабуе перш за ўсё вялікіх матэрыяльных выдаткаў. Многае залежыць і ад таго, як паставіцца да ідэі пленэра мясцовае кіраўніцтва. Скажам, пленэр Шагала быў наладжаны дзякуючы высілкам Міністэрства культуры Беларусі і дапамозе Фонду Сораса, пленэр Бялыніцкага-Бірулі на Магілёўшчыне «выцягнула» на сваіх плячах кіраўніцтва вобласці і горада Магілёва. А вось з пленэрам Драздовіча атрымалася дзіўная гісторыя... Ініцыятыва пайшла ад грамадскасці. Як вядома, у свой час у Германавічах быў створаны грамадскі культурна-асветны цэнтр Язэпа Драздовіча. Яго ўзначаліла былая настаўніца Ада Райчонак. Гэтая апантаная жанчына абышла не адну хату, пакуль даведалася, у каго захаваліся творы Язэпа Драздовіча. Прынамсі, у многіх вяскоўцаў былі дываны, малюнкі і карціны іх славутага земляка. Некаторыя не хацелі расставацца з памятнымі падарункамі, што нагадвалі ім пра сустрэчу з мастаком. А іншыя аддавалі бясцэнны твор мастацтва за мех бульбы.

За той касмічны краявід Драздовіча, які можна было бачыць на заключнай выстаўцы пленэра, між іншым, таксама было заплачана бульбай з агарода Ады Райчонак.

Аргкамітэт па правядзенню пленэра, прысвечанага Язэпу Драздовічу, узначаліў сын Ады Райчонак, Міхась, які працуе выкладчыкам Віцебскага дзяржаўнага універсітэта. А ў састаў аргкамітэта ўвайшлі такія вядомыя мастакі, як М. Купава і А.Марачкін, мастацтвазнаўца М. Раманюк і іншыя паважаныя і аўтарытэтныя ў рэспубліцы людзі. Дзякуючы падтрымцы зноў таго ж Фонду Сораса такая культурная акцыя змагла адбыцца на беларускай зямлі.

## Мясцовы паэт папрасіў прабачэння...

... На адкрыцці выставы мастакі, удзельнікі пленэру, прадэманстравалі тое, што яны змаглі зрабіць за дзесяць дзён.

— Уласна кажучы, не за дзесяць, а за сем, — удакладніў скульптар Аляксандр Шатэрнік. — Таму што дзень адкрыцця і закрыцця пленэру можна не браць у разлік. А калі ўлічыць, як псавала настрой надвор'е...

Сапраўды, удзельнікам пленэру не пашанцавала з надвор'ем: часта ліў дождж, было пахмурна і холадна. Тым не менш, вандроўкі ў вёскі Лепляны, Лужкі, Мнюта, Задарожжа, Пунькі, Малыя Давыдкі, Германавічы, Луткі, Гарадзец, Пліса, у гарадскі пасёлак Падсвілле, у Глыбокае далі моцны эмацыянальны штуршок для напісання ўласных твораў.

— Было надзвычай важна акунуцца ў стыхію жыцця, — расказаў жывапісец Уладзімір Сулкоўскі, які напісаў для выставы некалькі мясцовых краявідаў, — пабачыць той край, які так натхняў Драздовіча, зразумець, што менавіта яго натхняла.

Складаныя пачуцці, як я зразумела, перажывалі мастакі, якія вандравалі з эцюднікамі па тых мясцінах, што ўздоўж і ўпоперак абышоў Язэп Драздовіч. Усё тыя ж сіратлівыя камяні-валуны траплялі на вочы, небагатыя вясковыя хаты, руіны былых замкаў, касцёлаў і цэркваў... Гармонія расколатага свету, прыгажосць сціплай і стрыманай у колерах прыроды, дух былой велічы — усё гэта прысутнічае на карцінах П. Багданава, В. Маркаўца, У. Сулкоўскага, А. Мацievіча, С. Цімохава. Дарэчы, разам з творамі ўдзельнікаў пленэру прадстаўлены на выставе і творы самога Язэпа Драздовіча.

Як сказаў мастацтвазнавец Пётра Васілеўскі, выстава атрымалася надзвычай разнастайная. На ёй можна ўбачыць як «чысты» рэалізм мастака Аўчыннікава з Маладзечна, так і абстрактны жывапіс І. Барадулінай і С. Цімохава. Нечаканай экспрэсіяй уразілі творы В. Маркаўца і Ю. Піскуна.

Як вядома, Язэп Драздовіч быў вельмі далёкі ад палітыкі чалавек. Адзінай яго палітыкай была вечная, бязмерная любоў да радзімы, да роднага кутка, якая звязвала яго і з мінуўшчынай, і з будучыняй, і з продкамі, і з нашчадкамі. Здавалася б, мясцовыя жыхары — сяляне, інтэлігенцыя, кіраўніцтва павінны ганарыцца славутым земляком, а такая культурная акцыя, як пленэр, павінна стаць значнай культурнай падзеяй і для раёна, і для вобласці. Але не стала. Чаму ж, папытаецеся. У дзень адкрыцця пленэру мастакі меркавалі правесці дзіцячую выставу-конкурс «Шляхам Драздовіча» ў вёсцы Пунькі, дзе нарадзіўся Язэп Нарцызавіч. Конкурс не адбыўся, таму што не прыйшлі дзеці. А хіба ў Пуньках мала хлопчыкаў і дзяўчынак, якія любяць маляваць?

У горадзе Глыбокім планавалася сустрэча мастакоў з мясцовай інтэлігенцыяй,таксама не адбылася. Хіба так часта бываюць у правінцыяльным горадзе вядомыя мастакі, што на сустрэчу з імі не прыйшлі тутэйшыя настаўнікі, работнікі бібліятэкі, Дома культуры?

Здзіўленне выклікала і тое, што ніхто з кіраўніцтва Глыбоцкага райвыканкома, з мясцовых калгасаў не прыйшоў на выставу. Больш таго, і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь праігнаравала падзею. А між тым аргкамітэт па правядзенню пленэру ў каталогу, выдадзеным з гэтай нагоды, выказаў шчырую падзяку за фінансавую і маральную падтрымку Беларускаму фонду Сораса, Міністэрству культуры, Глыбоцкаму райвыканкому, Глыбоцкаму аддзелу культуры, Шаркаўшчынскаму аддзелу культуры і ўсім тым, хто далучыўся да правядзення пленэру. Як усё гэта зразумець? На жаль, журналісты не змаглі ў сувязі з такой дзіўнай сітуацыяй задаць пытанні ні адказным работнікам Мінкульта, ні мясцовага райвыканкома.

Свой варыянт каментарыя прапанавалі мастакі.

— Мы мяркуем, што гэта рэакцыя дзяржаўных уладаў на некаторых асоб, што сталі арганізатарамі і ўдзельнікамі пленэру. Алесь Марачкін, Мікола Купава, ды і Ада Райчонак — прыхільнікі БНФ і актыўныя яго дзеячы. Але пры чым тут Драздовіч?

... Калі госці з Мінска і ўдзельнікі выставы ад'язджалі пасля закрыцця пленэру па дамах, да іх падышоў чалавек, які сказаў, што ён мясцовы паэт і хоча папрасіць прабачэння ад імя ўсіх жыхароў Глыбоччыны, якія на самай справе памятаюць, любяць і шануюць Драздовіча. На душы палягчэла ад гэтых слоў.

**Таццяна АНТОНАВА.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## ШМАТПАКУТНАЯ КУЛЬТУРНАЯ СПАДЧЫНА ШУКАЕ ГАСПАДАРОЎ

Яна ў нас сапраўды вялікая, з багатай гісторыяй. А мы, як звычайна робяць не вельмі добрыя дзеці, заклапочаныя сваімі ўласнымі жыццёвымі гісторыямі, не знаходзім часу, каб пацікавіцца, як адчувае яна сябе сёння. А ёй так патрэбна ўвага.

Дзеля таго, каб прыцягнуць ўвагу да гісторыі свайго краю, якая з'яўляецца часткай гісторыі свету, на Беларусі ўжо другі раз праходзяць Еўрапейскія дні культурнай спадчыны. Сёлета іх дэвіз — «Гісторыка-культурныя каштоўнасці і іх уласнікі». Для нашай краіны праблема вельмі актуальная, калі прыняць пад увагу, што напярэдадні нядаўніх палітычных змен на Беларусі налічвалася каля васьмі тысяч матэрыяльных нерухомых гісторыка-культурных помнікаў, пакінутых без гаспадара. Гэта не толькі культавыя будынкі, а таксама палацавыя і сядзібныя комплексы, старыя паркі. Без належнага догляду яны разбураюцца.

У звароце да ўдзельнікаў Еўрапейскіх дзён спадчыны на Беларусі міністр культуры рэспублікі Аляксандр Сасноўскі падкрэсліў: «Сённяшні перыяд для гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі таксама вельмі складаны і нават крытычны. З аднаго боку, наша дзяржава, абвясціўшы незалежнасць, адкінула ўсякія ідэалагізаваныя ўмоўнасці і зрабіла першыя істотныя крокі да належнага стаўлення да нашай мінуўшчыны. Прыняты новы Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», пачаўся працэс вяртання вернікам пустуючых культавых будынкаў, пытанні аховы і адраджэння спадчыны ўзняты на прынцыпова новы ўзровень — узровень дзяржаўнай палітыкі.

У той жа час да крытычнай рысы падышоў тэхнічны стан большасці нашых гісторыка-культурных каштоўнасцей, што з'явілася вынікам іх папярэдняга занядбання, знявечання або варварскай эксплуатацыі. Цяжкая эканамічная сітуацыя, у якой апынулася Рэспубліка Беларусь, не дае магчымасці выдаткоўваць з дзяржаўнага бюджэту нават чвэрці ад самай мінімальнай колькасці сродкаў, неабходных для выратавання нашых каштоўнасцей. Акрамя сродкаў патрэбны яшчэ і людзі, спецыялісты, здольныя не толькі ставіць пытанні, але і вырашаць іх, не толькі пачынаць, але і завяршаць рэалізацыю найлепшых намераў, не столькі змагацца за захаванне спадчыны, як працаваць дзеля гэтай мэты...

Спадзяюся, што праводзімыя ў другі раз у Рэспубліцы Беларусь Еўрапейскія дні спадчыны дапамогуць прыцягнуць увагу да гэтых праблем, напомніць аб ільготах і перавагах, прадастаўляемых нашым заканадаўствам усім рупліўцам у справе адраджэння каштоўнасцей, натхніць на ўдзел у выратаванні спадчыны ўсіх, каму неабыякавы лёс нашага народа, гэта значыць — лёс кожнага з нас».

Толькі новыя гаспадары змогуць на самай справе паспрыяць выжыванню спадарыні Спадчыны сярод нас.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

Аляксандр КАПУСЦІН

# ВЕЧНЫ АПТЫМІСТ

АБРАЗОК

Язэп КУРАКА пагаджаўся з тымі, хто ў газетах называў наш цяперашні кручаны, дзіка-рыначны час «эпохай крымінальнай рэвалюцыі». А як не будзеш пагаджацца — ад рэальнасці нікуды не дзенешся, усё наяве. Бездухоўнасць спусташае душы маральна няўстойлівых людзей, робіць іх карыслівымі і сквапнымі. Ты яму пра беларушчыну, а ён табе пра цэны на замежнае спіртное ды працэнты ў камерцыйным банку... Але Язэп Калістратавіч падзяляў думку і тых непахісных аптымістаў, якія сцвярджалі: хвароба росту, перахварэем на яе і зажывём у дэмакратычным грамадстве, як увесь цывілізаваны свет жыве.

Так ён гаварыў і Архіпу Тараненку, калі яны, распараныя, расслабленыя, вярталіся з лазні дадому. Дружбакі былі суседзямі і калегамі, па два дзесяткі гадоў тапталі настаўніцкія сцежкі кожны ў сваю школу. Раз на тыдні, у выхадны дзень, у іх было строга заведзена пацопацца ў парылцы бярозавым венікам.

— А я вось баюся, каб не атрымалася ў нас: са сваёй хаты ды ўперад нагамі, — пахітаў лабастай белабрысай галавой Тараненка, панура слухаючы не ў меру бадзёры маналог Язэпа Калістратавіча. Ён на паўкрока адстаў ад Куракі і ступіў шырэй, каб параўняцца.

— Як гэта? — Курака паглядзеў на яго насцярожаным неўразумелым позіркам.

— Ды так. Кожнаму больш-менш разважліваму чалавеку вядома, што самы вялікі і дарагі набытак народа — мова. Яна ж — крыніца народнага духу. Жыватворная, невычэрпная...

Характарам Язэп Калістратавіч быў паважлівы, тактоўны, але запальчывы, і ён нецярпліва перапыніў сябра:

— Правільна. Дык ты хочаш сказаць, што ў нас у бесталковай мітусні мала робіцца для развіцця нацыянальнай самасвядомасці народа? — расшпіліў верхні гузік кашулі, расхінуў свежа-зялёны каўнер і заключыў з пэўнай доляй пафасу: — Паглядзі, на нашых вачах колькі ўжо зроблена!

— А гэта не на нашых вачах робіцца? — памяркоўны, крыху марудлівы, Архіп Мікалаевіч размашыста павёў рукою.

Над дзвярамі і шырокімі вокнамі дамоў, на фасадах кіёскаў пярэсцілі рознакаляровыя шыльды, размаляваныя лацініцай на чужых мовах.

— Каго, скажы, усхвалявала, што за гэтымі небеларускімі шыльдамі — і небеларускі дух?.. Нікога. Тут мы быццам нічога не бачым, быццам паслеплі.

Ледзь не з-пад ног у іх узляцеў голуб, які дробненька перабіраў чырвонымі лапкамі па тратуары, шукаючы якога корму. Ад узмахаў тугіх крылаў Тараненкаў твар абдала лёгкая паветраная хваля. Архіп Мікалаевіч правёў птушку позіркам. Светла ўсміхнуўся. Учора яны з жонкай ішлі з магазіна і так вось узагналі шызакрылага. Ён адляцеў ды раптам вярнуўся, апусціўся жонцы на плячо. Аднак не паспеў злажыць крылы, спалохаўся свайго неразважлівага ўчынку, імкліва ўспырхнуў. «Можа гэты смялейшы?» — прамільгнула ў Архіпа Мікалаевіча думка.

Голуб, недалёка кружнуўшы, знік недзе ззаду ў іх.

— Ці вось паслухай, што я нядаўна прачытаў у шаноўнай дзяржаўнай газеце, — вярнуўся Тараненка да сваёй гаворкі. — Даслоўна запомнілася: «Але можна здагадвацца, паколькі выкрадальнікі адважыліся на такі крок, то, напэўна, яны не сумняваюцца ў «хэпі эндзе» свайго заходу». Альбо яшчэ... Збіраюся сёння ў лазню, чую — па радыё навуковец гаворыць: «Пры такой пастаноўцы пытання гэта будзе наш ноу-хау». Здорава, а?.. У беларускай мове, якою можна выказаць усё без выключэння, для яго не знайшлося вартага слова. Дык да чаго, шаноўны сейбіт разумнага, добрага, вечнага, мы ідзём? — Глухаваты нізкі голас Архіпа Мікалаевіча гучаў з ледзь улоўным прыціскам. — Мы, даруй за грубасць, вушы развесілі, розную псеўдадэмакратычную дэмагогію слухаем і разводзім, а яны тым часам нас у лапці абуваюць.

Хто яны — Тараненка не растлумачваў. І Курака не дапытваўся. Паддаўшыся крытычнаму настрою сябра, ён нечакана ўставіў сваё:

— Ага, і ў лапці абуваюць, і, як некалі дзед мой казаў, на галаву садзяцца, — раптам ён аж прыпыніўся. — Пачакай, Архіп Мікалаевіч, выхадны дзень, а мы — пра палітыку!.. У выхадны адпачывай і целам і душой! — усміхнуўся, пажартаваў: — А можа б мы з табою, дружа, як людзі, у водпуск на Канарскія астравы махнулі? Слухаеш жа, кажаш, радыё, чуў: сонечныя пляжы, цёплае ласкавае мора... — ён і сам не заўважыў, як вырвалася ў яго гэтая горкая іронія. Хацеў проста востры досціп падкінуць, дык яго зноў, толькі з другога канца, — у тую ж палітыку...

Тараненка ніяк не адрэагаваў на нечаканы слоўны кульбіт Язэпа Калістратавіча. Павісла няёмкая паўза.

— Што, Архіп Мікалаевіч, замоўк? Кажу, хвароба росту, перахварэем.

Сябры павольна крочылі расслабленай хадою. Зааўтамабіленая вуліца млела ад спякоты. Панура нерухомыя, зажураныя стаялі дрэвы ўздоўж тратуараў. У пыльным паветры вісеў смурод выхлапных газаў. Дыхалася цяжка.

— Заўсёды трэба быць аптымістам, — высокі, хударлявы, з капой прасіўленых густых валасоў, Курака падбадзёрліва ўскінуў галаву. — Памятаеш, як мы некалі спявалі: «Маладыя капітаны павядуць наш караван»?

Яны павярнулі ў свой завулак. За вуглом магазіна, прысадзістай камяніцы з цёмнымі, як абветраныя воспіны, плямамі на шэрай сцяне, Тараненка кіўнуў у бок піўнога ларка:

— Можа, зойдзем? Па куфлю...

— Можна пасля лазні, — ахвотна пагадзіўся Язэп Калістратавіч, — па куфлю не зашкодзіць.

Архіп Мікалаевіч ступіў колькі крокаў да ларка. Курака таксама памкнуўся ступіць ды раптам спыніўся.

— Не, Мікалаевіч...

— Не разумею, што — не?

— Другім разам калі, — заўсёды цёплыя, прыветлівыя шэрыя вочы Язэпа Калістратавіча пазіралі збянтэжана і як бы вінавата.

— Чаго ты муляешся, грошай, можа, няма? Глупства, — махнуў рукою Тараненка.

Немаведама адкуль узялася аса. Бязгучна палётала між імі, замітусілася перад тварам Куракі. Ён не звяртаў на яе ўвагі, не адганяў. Толькі нервова ўскінуў руку да скроні, пачаў церці доўгім белым пальцам там, дзе білася сіняя жылка.

— Бачыў, двое падлеткаў у зялёна-белых каўбойках пайшлі ў ларок?

— Бачыў, то што? — Архіп Мікалаевіч уздыхнуў, быццам яму сціскала грудзі ўдушша. — Мала іх цяпер ходзіць туды?

— Гэта вучні з майго класа. — Язэп Калістратавіч сказаў і ўсё цёр, цёр скроню.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 3 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Навіны. **8.15** Аўта-парк. **8.30** «Шэрае, блакітнае, крыху зялёнага...» Дак. фільм. **9.05** «Дайце нам мужчын!» Шырокаэкранны маст. фільм. **10.20** «Тэлебом». Шоу-школа. **10.50** Прэс-імпрэза. «Прыватная ініцыятыва: шляхі развіцця». **11.30** Творцы. Гітарыст Валерый Жывалеўскі. **12.10** «Падарожжа у Эдынбургскае лета». 2-я серыя. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей. **16.00** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. «Францыск Скарына — беларускі першадрукар». **16.40** «Сава». Мультфільм. **16.50** Кантрасты. Прававая праграма. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Памежжа. Перадача з Гродна. **18.10** «Ой, лятала шэрая перапёлка». Дак. фільм. **18.25** Музычны антракт. **18.40** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** Рэферэндум: шчырая размова. **19.35** «Дзяжурная аптэка». **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.10** «На залатым возеры». Фільм-спектакль. 2-я частка. **23.10** «Оскар». Тэлегульня. «Крок». Праграма для моладзі. **0.10** Навіны.

### ГРТ

**8.00** Навіны. **8.15** «Новая ахвяра». **9.05** «Сярэбраны шар». Вядучы — В. Вульф. **9.45** «Клуб падарожнікаў». **10.35** Смак. **11.00** Навіны (з сурдаперакладам). **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам свету». **11.50** «Угрум-рака». 3-я серыя. **13.00** «Каштоўная бандэроль». Мультфільм. **13.10** Шчаслівы выпадак. **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Горад сабак». **14.45** Лего-го! **15.10** Цін-Тонік. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** Рок-урок. **16.30** «Вакол свету». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.05** Гадзіна пік. **18.30** Іграй, гармонік любы! **19.00** Цудоўныя гісторыі ў праграме «Мая сям'я». **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** К. Рыўз у фільме Бернарда Берталучы «Маленькі Буда». **23.25** Навіны. **23.35** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава. **0.30** Серыял «Кафэ кашмараў». **1.17** Праграма перадач.

### Расія

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі. **7.20** Ранішні экспрэс-2. **7.50, 17.20** Экспавеснік. **8.00** Рэтрашлягер. **8.25** «Дарагая рэдакцыя...» **9.00** «Санта-Барбара». **9.50, 23.25** Тавары — поштай. **10.20-11.30** «Процістаянне». Маст. фільм. 3-я серыя. **16.20** Блак-нот. **16.35** «Чэленджэрс». **17.00** Залежыць ад цябе. **17.30** Астралогія кахання. М. Леанідаў. **18.00** Новае пятае кола. **18.40** «Цёмная» для С. Фёдарава. **19.30** «Санта-Барбара». **20.30** Рэк-тайм. **20.45** Лато-мільён. **21.00** Надвор'е на заўтра. **21.05** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы сярод клубных каманд. ЦСКА — «Улкер» (Турцыя). **22.45** Сусветны чэмпіянат феерверкаў. **23.35** Музыка ўсіх пакаленняў. **23.50** Хто на што здатны. **0.05** Не спі і глядзі.



## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**3 кастрычніка 1895 года** нарадзіўся выдатны рускі паэт Сяргей Ясенін.

**3 кастрычніка 1919 года** нарадзіўся вядомы літоўскі паэт, грамадскі і дзяржаўны дзеяч Эдуардас Межэлайціс.

**У кастрычніку 1923 года** ўтворана Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ). Дзейнічала на правах тэрытарыяльна-аўтаномнай арганізацыі кампартыі Польшчы, падзяляла яе праграму і статут. Спыніла існаванне ў 1938 годзе ў выніку роспуску Камінтэрнам камуністычнай партыі Польшчы.

**3 кастрычніка 1935 года** нарадзіўся Армен Джыгарханян, савецкі акцёр, здымаўся ў многіх кінафільмах, іграе на сцэне Маскоўскага тэатра імя Маякоўскага.

**У гэты дзень у 1945 годзе** была створана Сусветная федэрацыя прафсаюзаў.

### Цікава

***Амерыканец Лайл Менендэс ажаніўся са светлавалосай мадэлькай часопіса «Плейбой».***

У гэтым не было б нічога дзіўнага, калі б не адна акалічнасць. Ён адбывае пажыццёвае турэмнае зняволенне за тое, што ва ўпор расстраляў уласных бацькоў. З нявестай, а зараз ужо і маладой жонкай, Лайл не бачыўся яшчэ ні разу! Дзяўчына вельмі моцна закахалася ў Лайла, калі забойцу паказвалі па тэлевізары, і ўступіла з ім у перапіску. Просьбу зняволенага Менендэса аб уступленні ў шлюб турэмныя ўлады задаволілі, а вось выпусціць з турмы ў мэрыю для рэгістрацыі шлюбу адмовіліся катэгарычна. Давялося маладым рабіць гэта... па тэлефоне. З дапамогай паралельных апаратаў да працэсу далучыліся святар і сведкі. Так і было здзейснена таемства шлюбу.

### А яшчэ быў выпадак

***Гастролі спевака Альфонса Ахеда па гарадах Чылі праходзілі вельмі паспяхова. Яго тэмпераментная манера выканання, прыемны голас і больш чым прывабная знешнасць пакарылі публіку.***

У рэпертуар Ахеда, які выступаў у суправаджэнні двух гітарыстаў, уваходзілі іспанскія і крэольскія народныя песні, а таксама арыі з опер і аперэт.

Але аднойчы на канцэрце ў невялікім партовым горадзе Пуэрта Монт здарылася непрадбачанае: чарговая песня абарвалася на паўслове. У зале наступіла мёртвая цішыня, а спявак, які стаяў на эстрадзе, працягваў адкрываць і закрываць рот, але гуку, на жаль, не было. І тут высветлілася не толькі тое, што Ахеда выступаў пад фанаграму, але і тое, што ён наогул ніяк не мог пець, бо... быў глуханямым ад нараджэння, але затое вельмі ўмела імітаваў спевы. Пасля заканчэння сваіх выступленняў ён пад маркай крайняй сціпласці і нелюбові да авацый заўсёды сходзіў з эстрады, ад яго імя са сцэны і па-за ёй выступаў імпрэсарыо.

Такімі ж былі і яго «акампаніятары» — псеўдагітарысты, якія толькі імітавалі выкананне, бязгучна перабіраючы струны.

### З жыцця вядомых

***Светлы твар цемнаскурага ад прыроды спевака Майкла Джэксана пачынае цямнець.***

Майкл патраціў паўжыцця і вялізную колькасць грошай, каб стаць белым. І вось на твары «зоркі» зноў сталі выступаць цёмныя плямы. Прымяняць на працягу многіх гадоў лякарства, якое падаўляе гарманальныя залозы, небяспечна для жыцця. Урачы знізілі дозу і вынік, як кажуць, «налицо» (дакладней — на твары). Вяртанне натуральнага колеру скуры адбываецца не адразу, а паступова — плямамі.

### Хто мы?

***Вучоныя да гэтага часу не могуць толкам растлумачыць прыроду «левізны» і «правізны» ў людзей, бо спробы знайсці ўзаемасувязь гэтых праяў з функцыямі розных паўшар'яў мозгу не далі адназначнага адказу.***

І ўсё ж было заўважана, што ляўшы часцей хварэюць на дыябет, каліт, артрыт і наогул жывуць менш, чым праўшы. Аднак дзеці-ляўшы апярэджваюць сваіх равеснікаў у інтэлектуальным развіцці, а сярод дарослых ляўшэй вельмі многа вучоных у галіне дакладных навук.

Так што не трэба перажываць, калі ваша дзіця нарадзілася ляўшой. Памятайце: да гэтай катэгорыі людзей належалі і належаць Юлій Цэзар, Напалеон, Карл Вялікі, Жанна Д'Арк, Мэрлін Манро, Чарлі Чаплін, Пол Макартні, Біл Клінтан і іншыя.

### Анекдот

*Адзін шатландзец сустракае сябра, які прыкрывае рукой апухлую шчаку.*

*— Што з табой, Том?*

*— Мне толькі што вырвалі два зубы.*

*— Але ж ты раніцай сказаў, што будзеш вырываць адзін зуб, які балеў.*

*— У дантыста не было рэшты.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.430. Індэкс 63850.
Зак. № 6428.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12